# Непаўторная музыка вершаў

## Да 75-годдзя з дня народзін Юркі Голуба

Сярод вялікай кагорты гарадзенскіх паэтаў (у наяўнасці паэтычнага таленту якіх ніхто не сумняваецца) постаць Юркі Голуба як паэта заўсёды будзе стаяць асобна, а творчасць вылучацца, свяціцца божай іскрой, якую нельга не заўважыць, не адчуць…

І наўрад ці знойдзецца такі крытык ад літаратуры, які паставіў бы пад сумніў гэтую тэзу.

Вядома, што Юрка Голуб (20.10.1947—12.10.2020) як добры літаратар пісаў і публіцыстыку, і прозу, але найперш ён лічыў сябе паэтам…

Давялося мне ў маладосці прысутнічаць пры цікавай інтэлектуальнай спрэчцы тады яшчэ маладых, а на сёння вельмі вядомых у краіне музыкаў. Размова ішла пра знакамітых італьянскіх майстроў скрыпак. І вельмі запомніліся словы аднаго з іх: «Усе скрыпкі, якія зробленыя Амаці, Бергонцэ, Панормо выдатныя, але скрыпкі Страдывары — гэта нешта іншае…». На пытанне апанента «Чым жа яны не падобныя да іншых скрыпак?» той адказаў: «Сваім гучаннем, абсалютна адрозным ад іншых… Інструменты, голас скрыпак Антоніо Страдывары немагчыма зблытаць з інструментамі іншых майстроў… Скрыпкі Страдывары — непаўторныя!..».

Такая ж непадобная да паэзіі іншых творцаў і паэзія Юркі Голуба. Яна — такая ж непаўторная… І такая самабытнасць, і такі, не падобны да іншых, стыль напісання вершаў, ставіць Юрку Голуба ў шэрагі вялікіх паэтаў.

Не кожны паэт з такой уважлівасцю, патрабавальнасцю і крытычнасцю падыходзіць да паэтычнага слова ў стварэнні сваіх вершаў, як гэта рабіў Юрка Голуб. Ён не дапускаў у сваёй творчасці ўхілаў, штучнасці, рыфмаплёцтва — усяго, што прыводзіць да невыразнасці, шэрасці, да паніжэння якасці твора…

На маю думку, прыйшоў у свет паэзіі Юрка Голуб трохі са спазненнем. Канец дваццатага стагоддзя… Ужо не ў гонары прыгожае слова, таленавітая метафара або трапнае апісанне наваколля. У літаратуры пануе практыцызм, грубасць і яскравае прастатаслоўе думак. Разважанні над вечным і праблемамі чалавечай душы адыходзяць на другі план…

Але вось што дзіўна: аказваецца, што скрыпкі Страдывары не тое што не запатрабаныя сёння — яны з цягам часу сталі павялічвацца ў кошце ў геаметрычнай прагрэсіі, хутчэй, чым золата і ўсялякія алмазы. Таму, што няма на свеце больш каштоўнейшых рэчаў, чым тыя, якія створаныя творцам-геніем.

Так і вершы Юркі Голуба назаўсёды застануцца ў скарбонцы беларускай і сусветнай літаратуры як абсалютна непаўторныя і геніяльныя творы і з часам усё больш і больш будуць запатрабаванымі.

*Валянцін ДУБАТОЎКА*

# Кон

## З рукапісу кнігі «Аберуч»



Юрка ГОЛУБ

### Простая мова

*Раса раскашуе. Рудзець*
*Загару маёва.*
*Выносяцца гукі з грудзей.*
*Простая мова.*

*У матчынай хусткі каснік —*
*Сусвету абнова.*
*Не схільная звону казны*
*Простая мова.*

*Будзіла будынкі бяда*
*Грымотна. Сурова.*
*Ахоўвала краю будан*
*Простая мова.*

*Патрапіў у пекла сатрап?*
*У жорсткія ловы.*
*Кавадла — радзіма сярпа.*
*Простая мова.*

*Дарэмна ламаў ураган*
*Вясёлку на дровы…*
*Зубры са стажком на рагах…*
*Простая мова.*

*Зракліся замовы ануч,*
*Дзе з шэптамі змова.*
*Зацятыя вусны на ключ.*
*Простая мова.*

### Спроба вопыту

*Выпадак становіцца лёсам,*
*А лёс у выпадках паграз.*

*Вунь круцяць кружэлку галосна,*
*А спеву нячутна якраз.*

*Надзея імкнецца ў прастору.*
*Прасторы ў цямніцы няма.*
*Таму і стаіць не ў гуморы*
*На друзе стагоддзяў турма.*

*Не горнецца позірк загане:*
*Сягае балесны праз мур,*
*Туды, дзе пасталі на ганак*
*Апостал,*
*анёл*
*і амур.*

*Настаўнік адродзіцца ў вучні.*
*Угору не выб'ецца гвалт:*
*Запясці закручваць калючкай,*
*Закручваць легенды ў асфальт.*

*Асот расквяціла б аблуда…*
*Ды, мусіць, найлепей відаць*
*З карчмы паспалітаму люду*
*Паветра,*
*зямля*
*і вада.*

### Кон

*«Памру, пазначана зімой…»*
*Калісь прарочыў рыфмы лёкай,*
*А потым вершы пад замок —*
*І пасміхаецца з палёгкай.*

*Шпітальным цэрберам наздзіў,*
*На зайздрасць дробным дабрахотам,*
*Куды начлегі сам вадзіў,*
*І зараз ірвануў з ахвотай.*

*Ля летапіснага трысця*
*І патаемнага балота*
*Ён зведаў выраяў працяг,*
*Балады даўніх закалотаў.*

*…Чырвоны пыл ад мірскіх веж.*
*…Расу гальшанскага партала.*
*…На вейцы свету Белавеж.*
*…Пралеску з радасных праталін.*

*Прымеркаваны жыць наўсцяж,*
*Дзе небасхілы значыў золак,*
*Ён воблака пранёс, як сцяг,*
*Пад шапаценне зор і зёлак.*

*Дзівак няўсцешаны аднак,*
*Відаць, таму, што лёс на схіле?*
*Ды думка точыцца адна:*
*Жыццё не карацей за хвілю.*

### Паэт

*Каб прышчапіць сябе, як след,*
*У садзе Слова — не спакусы,*
*Дык ён караскаўся ў сусвет*
*Уласным цешыцца прымусам.*

*Жадаў наперадзе спазнаць*
*Захмар'я зябкую валоку.*
*Ахвярна. Строга. Дапазна*
*Стаяла зорка перад вокам.*

*Ён пазбягаў з гайнёй сустрэч*
*І прызначаў з гаямі стрэчы,*
*Бо ведаў: дурню не пярэч,*
*Разумным можаш запярэчыць.*

*Са старадрэвіны вякоў*
*Лістота глуха адпадала.*
*Ён знаў: падобна навакол*
*Было, калі звялі шану на гала.*

*Не чуў апошняе трубы,*
*Што абвясціла позні почат.*
*Старонкі жарсці і журбы*
*Над ім, як воблакі, шапочуць.*

### На кургане

*У бездань па́даў цень груганны*
*І нанач сонца замыкаў,*
*Каб дуб застаўся на кургане,*
*Бадай, апошнім з магікан.*

*Жарства апальвала падэшвы:*
*Пад сподам гневаўся вулкан.*
*І лёс нябёс сабой завершваць*
*Жадаў жытнёвы акіян.*

*Як ледавік на першапутак,*
*Сюды спаўзаў груваст змрок.*
*Курган раздзерці — шалапутаў*
*Аднекуль знесланазнарок.*

*Ды ён паўстаў, калі світала:*
*Апёкі. Подых. Знакі. Звыш.*
*Ды толькі дуба не хапала*
*Між ім і воблакам. Паміж!*

*Кургане, бачым: вечнасць долю*
*Тваю захутала ў шынель.*
*І дуба, што на подзвіг здольны,*
*Ізноў пакліча зашумець.*

### Урокі

*Натоўпу «з'ехала страха»,*
*Калі штыкамі зблізк гразілі.*
*Хапаў каменне нарасхват*
*І драў і глотку, і грудзіну.*

*Таптала роспач тратуар,*
*Дзе сцяг абвугленіы зацяўся.*
*І крыжавала жахам твар,*
*А шкло хрумсцела пад абцасам.*

*Не стане здзек праваднром,*
*Не будзе ласкаю пагарда.*
*А час, аблічам не здароў,*
*Злавесна бліскае кукардай.*

*Заве да бунту недарод,*
*А бунт ахвочы біць — не ладзіць.*
*Найлепш хавацца за народ,*
*Калі бярэ народ уладу.*

*На скрыжаванні злых эпох*
*Стаяла помнікам дубіна,*
*І хілы кланяўся, як мог,*
*Каб, Бог бароніць, не дабіла.*

*І пастулатаў справавод,*
*І дырыжор усіх граматык*
*Вучылі паству з году ў год*
*На мове шаблі і гарматы.*
*Паўстала памяць на дыбы.*
*Трашчыць зняверу мост гарбаты.*
*Зямлю бароняць не дубы —*
*Пад імі злеглыя салдаты.*

*У малалецтва ў ружах дні,*
*Над дзецьмі гіцаль не галёкаў.*
*Яшчэ з-за парты не відны*
*Іх белалобыя галоўкі.*

### Жураўліная аповесць

*Сшытак неба. Пішуць журавы*
*Падарожнай велічы аповесць.*
*Ападае шапка з галавы,*
*Што з зямлі трымае з імі повязь.*

*Трубіць бор пакінутым — на збор:*
*Не шкадуе выдыху і рога.*
*Нават той, хто выдумкаю скор,*
*Не ўяўляе вынік эпілога.*

*А на крэсках кніжак і дарог*
*Можа непрадбачнае стацца.*
*Далібог, звысоку бачыць Бог:*
*Кніжнікі і птушкі пры сваяцтве.*

*Дый аповесць крэмзаюць вятры,*
*Скарачаюць вернікаў палёту.*
*Капаюць на капішча вітрын*
*Перыйкі-старонкі з пераплётаў.*

*Землятрус закасваў рукавы:*
*Быць сутычцы, мабыць, неўзабаве.*
*Пішацца аповесць. Журавы*
*Не належаць да чужой забавы.*

### Мазаіка з вакна

*…а падалося: уваскрос,*
*Каб да абсягу прычыніцца.*
*А тут, прамоклая наскрозь,*
*Вітае сонца аканіца.*

*..у квет ступіў камлісты сад,*
*Квачом пабелены па пояс.*
*(Нібы зайшоў на новы сайт,*
*Калі шукаць з сучасным повязь.)*

*…шпакі шліфуюць пёркі ў рад:*
*Аблюбавалі доўгі провад..*
*А хто пустой шпакоўні рад,*
*Калі прымерзне на Пакровы?*

*…згінае шыю жуpавель*
*(Ён цудам выжыў. Дажывае…)*
*І быдла з раніцы раве:*
*Калі раве — дык плоць жывая.*

*…ахвяру сочыць дрэмны кот —*
*Сабакі невыносны вораг.*
*Калі было б наадварот,*
*Дык хто застаўся б у фаворы?*

*…спыніўся нанач грузавік,*
*Гразёй заляпаны па кузаў.*
*Прылашчыць шапку поўні*
*цвік*
*На вушаку нябеснай кузні.*

*…збірацъ даніну выйдзе змрок:*
*Абдымкі вольніцы пазычыць.*
*Іржавы вечнасці замок*
*Не замыкаецца па звычцы.*

### З'яўленне дня

*Пазбавіў Збаўца ад пакут,*
*І вечка зачыніла жытку.*
*А каляндарных фішак жмут*
*Суровай ніткаю прашыты.*

*На неба хутар пазіраў,*
*Хтось зоры выцінаў зубілам:*
*І вызвалялася зара*
*З крутых абдымкаў небасхілу.*

*У травах нехта гергетаў,*
*Каб неадчэпна свет вярэдзіць,*
*Ды знікла лёсу гарката*
*З душы і цела папярэдне.*

*На схілах помнае гары*
*Спынілі шэсце цені змроку,*
*Цяпер там золатам гарыць*
*Каплічкі зніч навідавоку.*

*З'явіўся дзень акі прамень.*
*Зязюля шчодра закувала.*
*А там, дзе безліч перамен,*
*Гуло чырвонае кавадла.*



Валерый КАЗАКОЎ

# Чорны кот

## Пачатак другой кнігі рамана[1]



Фота wordpress.com

***

Павольна, нібы неахвотна, гусцеў змрок. Надвор'е стаяла непрыемнае. Церусіў дробны дождж. З'едлівы шэры дым, прыціскаючыся — як спалоханы злодзей — да самай зямлі, круціўся і, адхінуўшыся да каменнай сцяны, кудысьці бясследна знікаў. У паветры стаяў удушлівы ліпкі смурод. З дальняга краю манастырскага пляцу гарбацілася даўгаватая туша, пакрытая чорнай луской. Вакол мітусіліся два манахі з доўгімі жэрдкамі ў руках. Нягледзячы на тое, што Жыровічы ўжо даўно адабралі ў базыльянаў і перадалі рускай царкве, манахі былі апрануты ў каталіцкія расы з капюшонамі і падперазаны звычайнымі вяроўкамі. На такое надвор'е яны былі зручнейшыя ды і цяплейшыя. Ткнуўшы жэрдкай, нібы дзідай, у вогненную пачвару, манахі, прыкрываючы вочы ад сажы, крыху адыходзілі, а з-пад «дзідаў» уздымаліся клубы дыму, іскры, чорныя шматкі паленай паперы, вонкі вырывалася полымя. Пры святле было відаць, што гэта вялізнае вогнішча складзенае з кніг і папер, прыбітых зацяжным дажджом.

— Ты з-пад ветру, з-пад ветру калупай! Ці чуеш, Хама?

— Я тебе не Хама, а брат Фома. И забывай ты уже свой униатский язык, не притворяйся, говори нормально по-русски. И еще, брат, я сам знаю, где и как мне поддув воздусей сотворяти… — І далей працягваў таксама па-руску: — Цьфу ты, чорт, ад цябе гэтая моўная зараза, бы блохі на пакорлівых мніхаў, скача. Прабач, Госпадзе, не да месца і не да часу рагатага памянуў. Вось ужо я табе!.. — Фама пагразіў кулаком таварышу.

— Хама, ну што ты лаешся? Ты ж таксама наш, ліцвін, і недалёка ад маёй вёскі нарадзіўся. Што ты ўжо такога зацятага маскаля з сябе робіш? Мне на маёй мове зручней размаўляць, ды і маліцца таксама. Звонку набажэнства па-маскальску гучыць, а ў душы ўсё па-роднаму.

— Ох і ўпарты ты чалавек, брат Павел! І лупцавалі цябе, і на ланцуг саджалі, і пакаянны канон па сто разоў прымушалі паўтараць…

— Па сто пяцьдзясят разоў. Добра, брат Фама, не буду я больш уводзіць цябе ў спакусу. Так, па-зямляцку хацелася душу адвесці. Бач, як вы ўсе тут так хутка на ўсё забыліся. Добра, а ты ўсё роўна з падветранага боку калупай… ковыряй. Толку больш будзе.

Павел замоўк і адышоў ад свайго напарніка. Механічна паддаў ботам камяк абгарэлай паперы. Верхнія старонкі адляцелі, агаліўшы невялікі жаўтлявы скрутак рукапісаў. Манах нагнуўся, беражліва падняў, разгарнуў.

— Божа міласэрны! Гэта ж пергамент. Матка Боска! Хама, дзівіся, што гэта? Зірні, ты ж разумнейшы, у семінарыі навучаешся.

Фама неахвотна падышоў, нагнуўся, узяў знаходку, разгарнуў. У яго руках быў старадаўні пергамент, спісаны старажытнай латынню. Прысеўшы на кукішкі, ён паварушыў сваёй палкай у вогнішчы. Слабы вецер раздзьмуў невялікае полымя. Знаёмыя літары, на якія загадана было забыцца, складаліся ў словы і сказы. Фама відавочна недзе чытаў іх. Не на пергаменце, а ўжо надрукаваныя.

— Ці чуеш, Паўле, здаецца, гэта старажытны спіс з Плутарха, ягонай «Moralii»! — захоплена прашаптаў ён. І, нібыта спалохаўшыся сваіх слоў, зладзеявата азірнуўся вакол. Побач нікога не было. — Ох і дастаў ты мяне з гэтай дзікай мовай, расхваляваўся і само вырвалася… — І далей зноў працягваў па-руску: — Прабач мне, Госпадзе, нядбайнасць маю! — Фама шырока перахрысціўся. — На, забяры сваю знаходку, а лепш кінь у агонь. Яна на латыні напісана і складзена грэчаскім лацінянінам пры імператары Траяне. Плутархам яго звалі. Ён яшчэ на старасці гадоў спрабаваў аднавіць Дэльфійскі Аракул. Было такое паганскае месца. Не богаўгоднае гэта чытанне. Спалі, — і сунуў у рукі агаломшанаму Паўлу скрутак. — Нешта даўно новых дроўцаў не вязуць, а то гэтыя, абгарэлыя, толькі чадзяць. Дзесьці ў нас тут вілы былі, а то зробіцца цемра, і святло не абдыме яе. Чаго стаіш, бы Лотаў слуп? — павярнуўся ён да Паўла. — Кідай, ды пойдзем у трапезную, можа, чаго да агульнай трапезы дадуць, мы ж на паслушэнстве. Кідай, бачыш, я тут жа́ру разгроб.

— Не, Фама, не магу я старую кнігу спаліць, можа, яе Сам Збавіцель бачыў. Ды і грэх гэта — кнігі паліць, неяк не па-людску. Мы ж па іх Богу маліліся, чытаць і пісаць вучыліся, розуму набіраліся, і вось табе, у агонь!

— Ты язык свой прыкусі! Спіна па бярозавай кашы засумавала? Не нашая справа разважаць, што ды навошта. Прыстаўлены паліць, вось паліць і павінны.

— Браце, дык амаль ужо васямнаццаць гадкоў кніжкі ж паляць. Ледзь абіцель не спалілі, калі ў печах іх агню аддавалі. Гэта толькі апошнія гадоў з шэсць тут, пад агароджай, палім.

З боку архірэйскіх палат пачулася рыпенне даўно нямазаных колаў, металічныя абады зацокалі па бруку.

— Вунь па-тваім загадзе новы воз грахоў нашых вязуць. Ох, успомніш мае словы, Хама-Фама, будуць нас з табой чэрці на кніжным вогнішчы падсмажваць. Ой будуць!

Да вогнішча паволі падсоўвалася вялікая каляска з высокімі кратаванымі бартамі, даверху нагружаная прыгаворанымі кнігамі. Каляску цягнулі два манахі ўжо ў новых рускіх расах, два ўпіраліся ззаду, дапамагаючы ім.

— Гэй, гультаі! Тобишь лентяи! У вас тут зусім усе агні патухлі, прымайце новую паклажу, — прытармажваючы кола моцнымі рукамі, зычна крыкнуў мясцовы іпадзьякан, выходзячы з-за каляскі. — Во, ледзь давалаклі. Загадана да раніцы ўправіцца. А там дні два-тры пярэдыху будзе.

— Няўжо ўсе ўжо спалілі? — запіхваючы пергамент за абслізганую ад дажджу калоду, спытаў Павел.

— А хто ж тое ведае? Прыйшоў наказ Яго Вялебнасці кніжкі з Віленскай семінарыі да нас не везці, а рэвізаваць на месцы і ўсё прыдатнае ды каштоўнае адправіць у Кіеўскую духоўную акадэмію.

— Пячэцца ўладыка Іосіф аб радзіме сваёй, там кніжкі патрэбней, а нам, цёмным, навошта яны… — злосна калупаючы ў вогнішчы жэрдкай, вымавіў Павел. — Калі больш не будзе, пакідайце ў калясцы. Ды двух у паслушэнне пакіньце, дапамогуць разгрузіць.

— Ты чаго гэта, уніят, раскамандаваўся? Бог у дапамогу, — прывітаўся дыякан, — глядзі ты на яго, уладыку адважыўся выкрываць…

— Заткніся, — з сілай штурхнуў Паўла ў спіну манах, які вырас у яго за спіной. — Маўчы! Бесталкоўку сваю пявучую павярні назад…

Да вогнішча ад харомаў ішлі некалькі чалавек, шлях ім асвятлялі манахі з паходнямі. У змроку крывавымі блікамі на дарагіх расах свяшчэннапачатку ўспыхвалі і згасалі водсветы паходняў, адлюстраваныя ў золаце панагій і крыжоў.

— На калені, дурань, — ціха, але выразна вымавіў нехта каля каляскі. — Сам архіепіскап Сямашка завіталі.

Усе бухнуліся на калені, не разбіраючы месца.

Дождж ужо скончыўся, але над уладыкам чорным грыбам вісеў вялізны парасон, які хаваў у цені дабрадатны вобраз з доўгай па-габрэйску раздвоенай барадой, злёгку раскосымі палавецкімі і ненаеднымі вачыма.

— Бог у дапамогу, брацiя, — павітаўся ўладыка па-свойму. — Падыміцеся з каленяў, нядобра мніху перад мніхам калені схіляць.

— Дык яны ў брацкай пакоры, Ваша Высокаправялебнасць, — з паклонам вымавіў ігумен.

— Уважылі, падымайцеся.

Манахі пакорліва падняліся і склалі рукі для дабраславення. Ігумен за спіной уладыкі грозна замахаў рукамі: маўляў, стойце і не ўздумайце да нас падыходзіць. Але Павел, які стаяў бліжэй за ўсіх, з моцным беларускім акцэнтам усклікнуў:

— Святы ўладыка, багаславі!

— Господь благословит, братия, — уладыка шырока перахрысціў манахаў і прыгожым голасам з прыкметным маларасійскім пранонсам праспяваў: — Благословен Бог наш, всегда и ныне, и вовеки веков!

Усе прысутныя перахрысціліся, адказваючы: «Амін».

— И как здесь у вас дела подвигаются?

— Да палим, владыка, только вот дожди да непогодь сдерживают, а так всё слава Богу, — адказаў з-за спіны ігумен.

— Ну и с Божьим поспешанием! Благое дело делаете, братья. Не таким простым оказалось наше возвращение в лоно родного православия. Тернистым путем сомнений и душевных раздоров для многих обернулась эта светлая дорога. Многие малодушные упорствовали, в набаты били, словно на пожаре. И правильно били. Был пожар, это диавол испепелял их заблудшие души. Но близится конец этому помрачению, верьте мне, братья. Только братней любовью мы победим римское засилие и станем великим, единым русским народом с единой верой и единым царем! И каждый из нас внес в это дело свою лепту. И только Всевышнему видно, чье делание важнее и весомее.

Пакуль уладыка прамаўляў, нечаканы шквал наляцеў на тлеючую кучу, раздзьмуў яе да зыркага агню. Вялікія служэбнікі, што патрапілі ў прагары, выгіналіся, нібы жывыя, карабаціліся, дыбіліся прамасленымі ад частага чытання старонкамі. Старонкі ўспыхвалі і прахам ляцелі на людзей. Манахі ў страху хрысціліся, царкоўнае начальства адварочвалася, каб засцерагчыся ад яшчэ тлеючых шматкоў паперы, якія яшчэ імгненне таму былі хрысціянскімі малітвамі. Толькі Іосіф стаяў непарушна і ганарліва, кій і барада надавалі яго постаці выгляд старажытнага паганскага жраца, які ўпіваецца выглядам забойства нявінных істот. Вочы яго гарэлі, і здавалася, што агнявая стыхія занялася ад іх і будзе бушаваць, пакуль іх не закрые няўмольная смерць.

У гэтай цішыні і шыпенні вогнішча ціхі голас Паўла прагучаў як Іерыхонава труба:

— Уладыка святы, прабачце мне дзёрзкасць. Вось глядзіце, што знячэўку вывернулася з гэтага агнішча, — ён з найніжэйшым паклонам працягнуў да архіепіскапа мокрыя лапікі пергамента.

— Брат, што за гадасць ты мне тыкаеш? Калі вочы не хлусяць, паперы гэтыя пісаны латынню. Ты што, чытаеш па-лацінску?

— Што вы, уладыка святы, я крыху па-расійску і па-нашаму разбіраюся, а так я ў грамацействе слабы, я больш па бандарнай справе. Граматныя людзі кажуць, гэта пісанні ледзь ці не ад часоў Збавіцеля, а пісаў гэта нейкі Плутархій пры Рымскім цары Траяне. «Маралікі» называюцца.

— Ты глядзі, настаяцель, якая ў цябе падкаваная брацiя, хоць заўтра ў папы́ стаў. Нешта я з пісанняў гэтага язычніка ў акадэміі чытаў. Плутархам яго звалі, а «Маралі» яго нам ні да чаго. Кінь, брат, гэтую брыдоту ва ўсёачышчальную гіену. Няхай гарыць, а я табе… як цябе завуць, брат?

— Інак Павел.

— А я табе, брат Павел, праз настаяцеля перадам рускі буквар і яшчэ якую-небудзь духакарысную кнігу. Добра?

— Добра, уладыка.

— Ну, кідай…

Зліплыя мокрыя аркушы паляцелі ў полымя.

— Вось і малайчына, брат Павел! Бо не кнігі гэта, а шлях спакусы і пагібелі сэрцаў нашых. Вы ўжо тут працуйце, а мы пойдзем назад маліцца за выратаванне і сваіх, і вашых душ.

Вогнішча разгаралася і ўжо шугала на ўсю моц. На манастырскім двары зрабілася светла, нібы пры поўным месяцы. Слуп полымя то хістала з боку ў бок, то ірвала да верха, а то рэзка выгінала і гнала ў спіны адыходзячага царкоўнаначалія. Вецер пераламаў парасон, у кагосьці загарэўся падол падрасніка. Новыя кнігі, прывезеныя ў калясцы, паляцелі ў вогнішча. Іскры ўзвірыліся да вечна нямога неба, але яно, не жадаючы тое бачыць, аддавала іх на ганьбаванне ветру.

Заканчэнне на стар. 7 »

[1] *Кніга першая была апублікаваная ў № 5 (84) часопіса «Дзеяслоў» (2016 год).*

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

***

Равіч адклаў модную кніжку пра жорсткае вяртанне ўніятаў ва ўлонне рускага праваслаўя, утрапёна паглядзеў навокал і адчуў непераадольнае жаданне выпіць. Ён ніколі не быў пітком, на запоі не пакутаваў ды і наогул вёў вельмі размераны лад жыцця, як і належыць чалавеку, выхаванаму на традыцыях усходніх адзінаборстваў. Але часам на яго находзіла. Ён ведаў, што змагацца з гэтым без толку, для ўнутранага камфорту будзе толькі горш. Таму, стросшы з сябе апошнія рэшткі ўражанняў ад прачытанага, неахвотна падняўся з-за працоўнага стала і падышоў да кніжных паліц. Дастаў тоўсты двухтомнік у карычневай вокладцы, узяў з падноса шырокую тонкую шклянку, паглядзеў яе на святло, — ні падцёкаў напояў, ні адбіткаў мінулых пальцаў заўважана не было. Звыклым рухам адчыніў падвойны карэньчык кнігі, выняў з яе квадратна-залізаную бутэльку «Hennissy XO». Узбаўтаў, таксама чамусьці паглядзеў на святло. Наліў грам сто пяцьдзесят. Схаваў бутэльку ў хітры томік, вярнуўся да стала. Доўга прынюхваўся да даўкай бурштынавай вадкасці, а потым павольна, не смакуючы, выпіў яе да дна. Пастаяў, разгублена пакруціў шклянку, насаложана заплюшчыўшы вочы, павольна апусціўся ў крэсла.

«І собіла ж улезці ў гэтую тэму… — праплыла ў галаве з цёплай хваляй алкаголю лянівая думка. — Спатрэбіліся табе і ўніяты, і іх спаленыя ў Жыровічах кнігі. Цікава, няўжо насамрэч васямнаццаць гадоў паліліі спадчыну Брэсцкага сабора? Нешта я пра гэта раней не чуў, хаця і пра базыльянаў напісаў ледзь не адзіную ў краіне манаграфію. Эх, на дзень мяне б да гэтага вогнішча! — Ён любіў гэтыя бязвольна плаваючыя цені думак і ўражанняў, яны яго не толькі расслаблялі ў такі момант, але потым, можа, праз дзень, тры, праз тыдзень, нечакана выстрэльвалі новымі ідэямі і нараджалі месяцы несуцішнай энергіі для іх увасабленні ў жыццё. — У цябе знікаюць вялікія задаткі наркамана. Вазьміся ты за гэта грунтоўна — мог бы заткнуць за пояс і Пялевіна, трэба было б, дарэчы, хоць для прыстойнасці штонебудзь ягонае прачытаць, і Кастанеду, замшэлага грыбакура, па новым разе прагартаць. А можа, і добра, што не здарылася гэта ў табе. Вунь глядзі, яшчэ нейкая думка вынырнула зніадкуль і павольна падплывае, жадаючы быць апазнанай і разгаданай. Не, ты глянь на яе! Махнула хвастом і знікла! Цікава, а ў думак хвасты бываюць? Не вядома, хоць, кажуць, пасля грыбоў усё бывае. Фу, якая брыдота!»

У дзверы кабінета пастукалі. Дабрадаць і ўсё ёй спадарожнае імгненна знікла. З тварам Равіча ўвомірг адбылася метамарфоза: на дзверы ўжо ўважліва глядзела начальніцкая маска з тонкім шляхецкім носам, змуленымі вуснамі і чэпкімі калючымі вачыма.

— Заходзьце!

На парозе ўзнік намеснік, які адказваў у музейным замку навукай і гісторыяй.

— Выбачайце, Міхаіл Сяргеевіч, — ноздры намесніка міжвольна затрымцелі, вочы прафесійна за імгненне прабеглі па сталах і падваконніках, на долю секунды затрымаліся на шклянцы, якая, нібы Траянава калона, тырчала пасярод стала.

— Алег Альфрэдавіч, нават і не думайце, дзень толькі паловіцца, — не расціскаючы вуснаў, вымавіў Равіч.

— Ды я… Ды што вы, што вы! Я нічога такога, уласна. Вось зазірнуў апярэдзіць. У вас сёння праз паўгадзіны сустрэча з бацюшкам Феафанам па пытаннях кіёскавага гандлю на нашым аб'екце. Вы прасілі на пазамінулым тыдні нагадаць, калі з міністэрства вярнуліся.

— Чартаўшчына нейкая! Усё ў суплёт: папы, уніяты, гандаль кнігамі! А яшчэ, гавораць, прадбачання не існуе.

— Выбачайце, кнігамі яны гандляваць не будуць. Я пацікавіўся ў сакратарыяце

# Чорны кот

## Пачатак другой кнігі рамана



Фота Dmitry Saloff

бацюшкі, яны дарагімі абразамі і срэбрам збіраюцца гандляваць. Ім здаецца, калі замак быў княжскай ардынацыяй, то і публіка да нас высакародная валам прэ.

— Пачакай ты са сваімі сентэнцыямі. А нам гэта патрэбна? Хоць гандаль не твая епархія…

— Вось, — намеснік працягнуў аркуш паперы, — я з нашымі параіўся, азнаёміўся з іх меркаваннямі і цыдулку склаў.

— Няма часу ў бюракратыю гуляць, на словах растлумач. Ды сядай ты…

Алег Альфрэдавіч хутка прысеў, як бы мімаходзь адсунуў ад сябе парожнюю шклянку і асцярожна ўцягнуў ноздрамі паветра.

— Ды «Хэнэсі», «Хэнэсі», не прынюхвайся.

— Вось я і чую, высакародны напой, — расчаравана ўздыхнуў Алег. — А па гандлі, калі сцісла, нам іх пускаць са сваім прылаўкам не выгадна, хай аддаюць на рэалізацыю. Мы ім выдаткі на абсталяванне гандлёвага месца, утрыманне прадаўцоў, ахову і г.д. эканомім, сваё без праблем забіраем, і ўсё. А так чужая юрыдычная асоба, чужая бухгалтэрыя, бескантрольныя грошы, а праверка? Навошта гэта трэба? Так усе нашы эканамісты і гандляры мяркуюць.

— Правільна мяркуюць. Так і вырашылі. Кажаш, срэбрачкам гандляваць збіраюцца?

— Так, шэф. Я, калі ў Мінск ездзіў, заходзіў да іх. У іх кропкі ўсюды: і ў ГУМе, і ЦУМе, і ў асноўных гандлёвых цэнтрах. Дзе народа шмат, там і яны на лепшых месцах. У нас, нябось, таксама ў галоўных сенцах будуць прасіць паставіць, дзе сувеніры.

— Дык дзе ж там? Там жа месца і нашым не хапае!

— Вось убачыце, шэф, паходзяць, паглядзяць і там папросяць.

— Гэта ім наўрад ці абломіцца!

— Вы толькі асцярожней з Феафанам, ён чалавек асаблівы і блізкі да трона. Гандляр, а спавядальнікам прыкідваецца. Яму б на сцэне выступаць. Тут хоць самому садзіцца ды дысертацыю пісаць «Царква як новая галіна сучаснага гандлю».

— А што, не дрэнна гучыць, спрабуй.

— Ай, баюся, пораху не хопіць, ды і грахі не пускаюць.

— Пра грахі твае трэба як-небудзь грунтоўна пагаварыць. Мала табе нашых, дык ты яшчэ і на гістфаку паспяваеш адзначыцца. Жаніцца табе трэба.

— Міхаіл Сяргеевіч, усё паклёпы і гнюсныя інсінуацыі! З жаніцьбай справа баваў, не маё гэта. У мяне, ведаеце, ёсць залатое правіла…

— Ты лепш памаўчы пра свае правілы, — перабіў яго начальнік, — а пра гэтага Феафана ты мне не першы кажаш, што небяспечны і слізкі чалавек. Хоць такога быць не можа, ён жа слуга Божы! Гандаль — гэта так, не для празмернасцяў, а для аднаўлення святыняў. Колькі за час саветаў разбурылі.

— На нашых землях і ўлады бурылі, ды і самі святыя айцы не адставалі! Лішняя сотня чалавек у прыходзе ці парафіі не перашкодзіць, вось іх і ганялі з праваслаўных у каталікі, ва ўніяты, у кальвіністы, у пратэстанты, а потым назад у праваслаўныя. Бедны народ, добра хоць я атэіст, на гэта на ўсё магу з усмешкай глядзець. А так проста бяда. А бацюшка да вас ой не просты прыедзе і вельмі багаты. Ён жа на льготах для царквы тут у нас сядзеў. Вы, напэўна, не ведаеце, у свой час фірма ў нас такая была «Экспоторг», вось праз яе дарагое спіртное, машыны, цыгарэты ды іншыя акцызы і валілі. Усё як у Расіі, толькі ў іх там царкоўна-гарэлачным працэсам магутны цяпер Кірылан запраўляў, а ў нас сціплы бацюшка Феафан са братам. Цёмная і малавядомая гісторыя. Ільготы згінулі, аўдыт ніхто не праводзіў ні ў нас, ні ў старэйшага брата. А цяпер усё і бадылём парасло. А ваш візіцёр, хоць да вярхоў і блізкі, папамі нашымі і епіскапамі не любімы. Яны толькі і сняць, каб падлянку супраць яго якую закруціць…

— Паслухай, Алег Альфрэдавіч, — у чарговы раз перабіў падначаленага Равіч, — ты мне прабач, што не даслухаў. Усё вельмі цікава, потым як-небудзь пад каньячок дараскажаш. Ты мне як навуковец, як гісторык адкажы: гэта праўда, што ў Жыровічах шмат кніг каталіцкіх і ўніяцкіх папалілі пры Сямашку?

— Правільней, шэф, было б сказаць не пры, а пад прамым кіраўніцтвам і з ініцыятывы гэтага біскупа-ўніята-адступніка ўся гэтая страшная і дзіўная карусель і закруцілася. У асноўным там і палілі, шмат спалілі, шмат расцягнулі. На тое, што тады сцягнулі, сёння сусветныя музеі моляцца. Сведкі тых часоў пісалі, што ў тых вогнішчах такое было — галава кругам! Паміраў, скажам, багаты пан-філантроп. Па духоўнай нешта абавязкова завяшчалася касцёлу, царкве, нешта спадкаемцам, а кнігі — а там і інкунабулы былі, і рукапісы! — як правіла, перадаваліся ў манастыры, у саборы, у парафіяльныя бібліятэкі, у духоўныя ўстановы, у семінарыі. Нешта, вядома, разбіралася, накіроўвалася ў канцылярыю мітрапаліта, можа, нешта і ў Рым. А пры нядбайных айцах і пробашчах звальвалася ў склепы, добра, калі сухія. Звальвалася і забывалася. А вось пасля Полацкага сабора 1839 года, хаця яго і саборам назваць складана, пайшло знішчэнне ўсяго ўніяцкага, усяго польскага. Што не ў Маскве пасля Нікана надрукавана, усё ў агонь. Так што адзін толькі іх неіснуючы Бог ведае, колькі і чаго там папалілі. Цёмныя часы тады былі. Гады за тры шэсць уніяцкіх біскупаў памерці ласку мелі, хаця цалкам здаровымі, кажуць, былі. А потым і сам мітрапаліт грэка-каталіцкі Язафат Булгак з Сямашкам патрапезнічаў ды неўзабаве і памёр. Гістарычная навука наша да гэтага пакуль не дайшла, хутчэй за ўсё, і не дойдзе. Не дадуць. Вунь у цяперашніх падручніках школьных пра унію ні радка. А тое, што мы да васямнаццатага стагоддзя былі каталіцкай краінай, як і ўся Еўропа, пра сіе і ведаць не трэба. Гэта, відаць, вышэй за ўзровень калгаснага інтэлекту цяперашніх…

— Чаму?

—Ды таму, што маскалі вялікія нам браты, а іх праваслаўе — гэта наша ўсё! А яго як такога тут зроду не было. Тут усё было па-свойму, са сваімі вывертамі. У нас божая справа больш залежала ад паноў, чым ад духавенства. Скажам, Радзівілу глянуўся кальвінізм, а як не глянуцца, калі там чорным па беламу напісана: багаты — гэта назаўсёды! Як не спадабацца? Тут табе Сымон Будны намаляваўся са свай друкарняй, і дручыць ва ўсю кніжкі, угодныя пану, кальвінісцкія.

У кабінет зазірнула заклапочаная сакратарка.

— Міхаіл Сяргеевіч, вы бацюшку Феафана да брамы замка сустракаць пойдзеце? Мне патэлефанавалі яго памочнікі, яны ўжо на пад'ездзе.

— Вы ведаеце, хутчэй не, вось Алег Альфрэдавіч яго сустрэне і да мяне праводзіць. Ты не супраць, гісторык?

— Абавязкова, і палічу за гонар. — Алег выразна зірнуў на шклянку.

— Няма базару… Але рэчы ты страшныя расказваеш.

— Нічога страшней за праўду ў свеце няма! А гістарычнай праўды аб тым пагроме, думаю, ужо ніхто не даведаецца. Пасунуся я папа сустракаць. Дазвольце, прадстаўлюся вашым намеснікам па веры і бязвер'ю?

— Алег, толькі без закідонаў. Божай няласкі нам толькі і не хапала.

— Усё будзе па першым класе, а Бог ад іх, мне здаецца, яшчэ далей, чым ад мяне, бязбожніка.

Намеснік умудрыўся весці бацюшку ад брамы замка да кабінета амаль сорак хвілін. Сакратарка маршрут руху адсочвала і дакладвала. Усё пачалося з кубка кавы і пары чарак шляхецкай настойкі ў рэстаране за кошт дырэктара, потым кароткая экскурсія. Агляд холаў ды іншых прыдатных для гандлю памяшканняў. Але, на думку Алега Альфрэдавіча, нічога лепшага за склеп-падвал замак прапанаваць не мог. Бацюшка наважыўся і падзямеллі агледзець, але калі даведаўся, што ў часы акупацыі там катавалі і забівалі габрэяў, а потым усіх тут побач у княжскім парку і пахавалі, рашуча адмовіўся. Запатрабаваў весці яго да дырэктара.

Сустрэча высокіх бакоў, як пісалі некалі ў партыйных газетах, прайшла надзва добразычлівa і канструктыўна.

— Так, вялікая ў вас гаспадарка, Міхаіл Сяргеевіч. Прызнаюся, не пабываўшы тут, ніколі б не паверыў, што ў нас ёсць такія, еўрапейскага ўзроўня, музеі. Цікава. Як вам удаецца выбіваць у міністэрства на ўсё гэта фінансаванне?

— А мы, Феафан Уладзіміравіч, фактычна жывем за свой кошт. У нас добры прыбытак, вось толькі траціць яго, як дзяржустанове, нам дазваляюць з вялікім скрыпам. Усё па старадаўніх запаведзях: адзін з сошкай, сямёра з лыжкай, ды яшчэ сіляцца навучыць, як гэтую саху-плуг у руках трымаць. Але гэта выдаткі нашага агульнага развіцця. Каму-каму, але нам скардзіцца грэх. Шкада, што вы адмовіліся ад свайго праекта пасупрацоўнічаць, але мы заўсёды гатовыя вылучыць вам вітрыну ў нашай крамцы і браць вашыя вырабы на рэалізацыю.

— Не, тут не столькі месца, а недарэчнасць нашых крыжыкаў з агульным антуражам. Усё тут каталіцкае, польскае, і раптам праваслаўныя абразкі. Вось калі б можна было асвяціць дамавую царкву па нашым абрадзе, але мне сказалі, што ксяндзы нас ужо апярэдзілі.

— Святы айцец, хацеў бы вас паправіць… У музеі ўсе экспанаты беларускія, польскімі яны былі на тэрыторыі Польшчы, а тут яны нашыя, як і магнаты, якія стварылі ўсю гэтую прыгажосць. Цяпер пра ксяндзоў. Як яны маглі кагосьці апярэдзіць, калі гэтая капліца першапачаткова была каталіцкай. У нас жа музей і культавая атрыбутыка — гэта частка гістарычнага інтэр'еру, частка экспазіцыі. А польскага тут практычна нічога няма, акрамя мовы ўладальнікаў. Але Трубяцкія і Юсуфавы ў той час размаўлялі, як правіла, па-французску і ад гэтага французамі не станавіліся. Тут усё выключна беларускае, нацыянальнае, так бы мовіць.

…Пры развітанні Равіча так і падмывала спытаць Феафана Уладзіміравіча пра Жыровіцкія вогнішчы. Але ён сябе стрымаў і разважліва прамаўчаў.

# Восень у кубку



Ярына ДАШЫНА

***

*Вясна. ВРІ. Краіна на каранціне.
У гэтай краіне даўно не можацца жыць.
Зламанае сэрца лопнула ў спружыне.
Баліць...*

*І хто адшукае яго ў грукаце слова,
зламаным і хворым,
у дадатак яшчэ і б/у.
У тым перадсэрдзі —
аскепак Айчыны свінцовы,
у гэтым — табу*

*на цябе. Запішы
на вясновы рахунак
банальныя рыфмы —
капежны рэчытатыў...
Сягоння мяне твой кантрольны
ў лоб пацалунак
забіў.*

***

*Пахне твой швэдар табой
і тваім раем.
Я дастаю табе да пляча,
я зазіраю
ў вочы твае, шэра-зялёны
бурштын.
Я не была ніколі
такой маленькай:
сонца ў валасах,
на запясці фенькі,
беззабаронай зусім
і нічыйнай зусім.*

*Бог — гэта і ёсць сэнс,
я адчуваю
пера -ўвасабленне,
-тварэнне адчаю,
-мысленне часу
ў рэжыме он-лайн.
Я не была ніколі такой старою:
сонца ў валасах фарбаванае
хною,
восень у кубку —
брыкецік цукру і лайм.*

*Кісла-салодкія ноткі
прысмакам новым.
Проста і сумна,
і весела адначасова.
І разумееш сутнасць сумневу,
маўляў —
гэта ўсяго невымернасці небакраю.
Людзі стамляюцца жыць
і паміраюць.
Людзі, якіх ніколі ніхто
не кахаў...*

***

*Цемра — як цішы бясколерны
атрыбут.
Успыхваюць душы анёлаў
у зорным суквецці.
Мне ўвесь час здаецца,
што я ўжо тут,
што я ўжо здарылася ў гэтым
Сусвеце.
Высакамоўна цвыркун
апявае ноч
у такт гарадской шашы —
пульсуючай вене.*

*Звярні ў правулак
і моўчкі прайдзі наўзбоч
ценем...*



Фота evg-crystal.ru

**Кветка**

*Ты ведаеш, мама, у гэтым вянку
я кветка, зламаная ў пазванку, —
схіляюся долу
пакорліва.
Повязь усіх і ўсяго —
мы нейтралізуем адно аднаго
і робім бясполымі...
Мама!
Здаецца, тут бачыцца дно,
здаецца, што мы памёрлі даўно
ў гэтым спляценні.
Здаецца,
мяне ў купальскім вянку
спусцілі, зламанай у пазванку,
уніз па цячэнні...*

***

*У цемры прысмак гаркаты
і шакаладнай адзінотнасці...
Я ведаю ў безвыходнасці
ўсе выхады і ўсе хады:
ў каханне, у вар'яцтва, у
бязвер'е слоў багабаязнае.
Сярод усіх няшчасных шчаснаю
сябе раптоўна прызнаю.
Тут, на нейтральнай паласе,
дзе шчасце шчаснацю ў палоне, —
атрутнасць цемры...
ёсць бяссонне,
расшчэпленае на ўсе радкі.*

***

*Ніхто на цябе не падобны
у гэтым сусвеце падробным,
на гэтай зямлі.
Ты сам і канец, і пачатак
сябе, ты і воля і краты...
І камяні,
калі прыйдзе час паняверцы,
збіраць аднаму давядзецца
ў полі сваім.
І будзе заўжды адзіным,
і дрэва, і тая галіна,
з якой адарваўся,
сын.*

# Прыйдзе час



Вадзім ЖЫЛКО

***

*Ужо не з даверам — з дакорам
У каханыя вочы зірні.
Кастрычнік нябачным затворам
З абоймы вышчоўквае дні.
Хвіліны, як хіжыя кулі,
Намацаўшы позіркам скронь,
Чакаюць у восеньскім гуле
Драпежнай каманды: «Агонь!».
Ляцяць траекторыяй годнай —
Ніякі табе рыкашэт! —
І ўздыхваюць толькі свабодна,
Каханне забіўшы як след.
Зімовыя блізка віхуры —
І што тут паробіш: жыццё!
А восень спраўляе хаўтуры
Па тым, што сыйшло ў нябыццё.*

***

*«Ну і нашто табе яно?»
З усмешкай позірк запытальны.
Наліта ў келіхі віно.
«Як, ты не п'еш? Недаравальна!
І што ты думаеш цяпер?
Былое зноў шукаць гатовы?»
Ў крэдыт, авансам, напавер
Ён шчодра рассыпае словы.
Ён так спяшаецца прабіць
Да падсвядомасці дарогу,
Што слоў сваіх губляе ніць
І замаўкае, дзякуй Богу.
Ды хоча першым быць паўсюль,
Прывык ў гаворцы ставіць кропку,
І тут жа залпам новых куль
Шпурляе да мяне чародку.
Ён намагаецца, дзівак,
Мяне па-свойму перайначыць,
І цэлы вечар аніяк
Свой не збаўляе тэмп гарачы.
Ён пераконвае ізноў
Ўсё з той жа жарсцю ды імпэтам...
Здаецца, ўжо не хопіць слоў,
Не хопіць доказаў, ды дзе там!
А я маўчу: няхай сабе
Ён хоць да раніцы баўбоча.
Ў люстэрку бачацца ў журбе
Яго засмучаныя вочы...*

***

*Што праўда ў кожнага свая,
Спрачацца нам не варта, людзі.
Ды аднаму — валяцца ў брудзе,
Другому — мкнуцца да святла.
Постмадэрнісцкі каляндар
Свае дыктуе нам законы:
Камусьці — зноўку біць паклоны,
Другім — атрымліваць удар.
Інфармацыйны акіян*



Фота naukatehnika.com

*Нас паглынуць заўжды гатовы:
Як цені, пралятаюць словы,
На трон зноў выбралі падман.
У модзе сёння слова «фэйк»,
Прывабны самы колер — шэры.
Без разумення і без веры
Жыве, як зомбі, чалавек.
Ды праўда ў кожнага свая —
Ці хто там пра яе спрачаўся?
Сусвет змяніўся — ў ім застаўся
Не Бог, не д'ябал — толькі Я...*

***

*Стануць незлічонымі
Ланцугамі чорнымі
Перад нескаронымі:
Трэба ж іх скарыць!
Хто раве раз'юшана,
Хто сініць прыдушана,
Кодлай развярушанай
Пачынаюць выць.
Нібы беснаватая,
Рушыць цемры гвардыя,
І невінаватая,
Бо «загад у нас».
Можа, ёсць сумленныя,
Хоць бы патаемныя?
Пошукі дарэмныя,
Але прыйдзе час...*

# Вып’ем за Сталіна



Віктар САЗОНАЎ

— Вып’ем за Сталіна, — нібы маланкай прапаліў мне мазгі Антон Іванавіч настолькі нязвыклым тостам.

Ён падняў чарку правай рукой, а левай злёгку сціснуў мне правую далонь. Зрабіў гэта для таго, каб з тае далоні не выпаў кілішак з горкай ад такой нечаканасці. Было б вельмі шкада разбітага посуду. А яшчэ больш той сумесі, якой заўсёды бракуе пры настолькі цікавай размове, якую па змястоўнасці можна параўнаць толькі з кніжкай, дзе з першага ж радка бачна, што яе тэкст разумнейшы за аўтара.

— Вы ж вязень сталінскіх лагераў, — агучыў я сваё здзіўленне, зняўшы яго з перакошанага аблічча і перафарматаваўшы ў словы. Але сваёй далоні не стаў вызваляць з яго сухой, але моцнай рукі. Таксама перажываў за кілішак. — Гэта ж абсурд — піць за Сталіна таму, каго Сталін пасадзіў у астрог! — падсумаваў.

— Абсурд — гэта гуманітарый-атэіст, — спакойна адказаў ён, яўна намякаючы на тое, што я, веруючы чалавек, працую навуковым супрацоўнікам у музеі, які ў простанароддзі называлі музеем атэізму. І гэтак жа спакойна дадаў: — Гуманітарый, чым бы ён не займаўся, можа несці толькі рэлігійныя каштоўнасці.

— Але гэта не музей атэізму, а музей гісторыі рэлігіі і атэізму, — пачаў удакладняць я і ўсім сваім выглядам паказваць нязгоду з катэгарычнасцю яго выказвання.

— Вось як! Дык ты, значыць, мог бы выпіць за свой музей? — усміхнуўся ён толькі вуснамі, але не ўсім абліччам. А яго халодны позірк упіўся ў мяне халоднымі вачыма начной савы.

Я падумаў, што няма на свеце чалавека, які б нарадзіўся з такім позіркам. Гэта набыты атрыбут. Позірк, ад якога кішка ў жаху імгненна прыліпае да пазваночніка. І добра, што прыліпае. Інакш пазваночнік мог бы патрушчыцца і высыпацца ў трусы бессэнсоўнай кучай касцянога смецця.

Такім позіркам можа надзяліць толькі надта ж няпростае жыццё. Вельмі цяжкае, трагічнае і пакутлівае...

Антон Іванавіч, сталага веку сухарлявы і сутулы чалавек, зайшоў паглядзець на экспазіцыі нашага музея ў адзіночку. Маўкліва стаяў каля кожнага прадмета і разглядаў яго з такой цікавасцю, якой я не бачыў нават у навукоўцаў. Мяне як у плечы нешта штурханула, і я падышоў да яго пазнаёміцца. Прапанаваў свае паслугі маладога навуковага супрацоўніка і экскурсавода.

Вось тады я ўпершыню пабачыў гэты позірк савы, ад якога паўзуць мурашкі па спіне і па дарозе да самых балючых месцаў увесь час кусаюцца. А калі дапаўзуць да самага балючага, то іх актыўнасць павялічваецца ў разы. І больш пра гэтага чалавека нічога не трэба было тлумачыць. Уся яго біяграфія была ў тым позірку, які мог сфармавацца толькі ў неймаверна цяжкім змаганні за жыццё, ва ўласных пакутах і ў невыносных перажываннях за блізкіх. А яшчэ ад прыроднай нязломнасці характару.

Як я і меркаваў ад пачатку, а пасля гэта пацвердзілася ў нашых размовах, да мяне ад таго позірку жахаліся суддзі, канваіры, ахоўнікі і нават расстрэльная каманда. Антон Іванавіч даволі вялікі кавалак адбыў у сталінскіх лагерах, дзе і пазнаёміўся асабіста з імі ўсімі. І, магчыма, менавіта гэты савіны позірк, ад якога аднойчы змачыў порткі нават адзін з кіраўнікоў далёкай сібірскай калоніі, і дапамог яму выжыць у цяжкі перыяд. Я так падумаў. Але Антон Іванавіч выдаў мне зусім іншую версію:

— Я выжыў толькі таму, што хацеў адпомсціць ім усім, — патлумачыў ён яшчэ напачатку другога паўлітровіка. — Мяне ж асудзілі і засадзілі зусім несправядліва. І ўсе яны гэта ведалі. Усе! Усе, хто прыкідваўся, што вёў следства, усе, хто фальшыва сведчыў, і хто судзіў, і хто садзіў, і хто канваіраваў, і хто вартаваў... Усе яны ведалі, што я ні ў чым не вінаваты. Але кожны з іх зрабіў сваю частку той чорнай справы, якая зламала ўсё маё жыццё...

Мой суразмоўца замоўк толькі дзеля таго, каб сказаць чарговы тост, які ўжо тады мяне здзівіў.

— Ну, дай Божа ўсім іхным душам Неба.

Наліваў Антон Іванавіч да краёў. Піў спакойна, роўнымі глыткамі, памаленьку і да канца. Закусваў мала. Часамі проста занюхваў кавалкам хлеба або цыбулінай, ці нават рукавом.

— Забралі мяне з любай Беларусі і павалаклі на ўсход, — працягваў ён. — Каханне маё засталося тут, і ўжо ніколі мы не былі разам. А *так* я яе кахаў! Жылы дзёр у вагоне, грыз зубамі, памерці хацеў. Жыць без яе не мог. А колькі гора было маім родным, што мяне любілі не менш, чым я сваю каханую. Але злыдні мяне валаклі ў няволю. Нізашто! Я ж ім нічога не зрабіў кепскага! А яны... Таварыш Сталін сказаў ім, каб не спалі ў шапку і пабольш нявольнікаў набіралі па кожным падазрэнні, вось яны і стараліся. Забіралі і без усялякага падазрэння. Самі прыдумлялі што хацелі, самі зачытвалі, самі судзілі, самі садзілі... Шмат нас такіх было. І не ўсе вытрымалі. І я вытрымаў толькі таму, што прагнуў помсты... Ну давай, за вытрымку...

Перапынкаў і вялікіх паўзаў у сваім аповедзе Антон Іванавіч не рабіў. Толькі каб за каўнер замахнуць. Бачыў маю дзіцячую цікавасць, што аж да мокрых пялёнак.

А гэта ж быў пачатак дзевяностых гадоў дваццатага стагоддзя. Савецкі Саюз кракнуў, як падстрэленая качка, і плыла пра яго злачынствы ўся праўда і няпраўда, сапраўднае ды небыліцы... Паспрабуй адрозні, дзе што. А тут, жывы сведка тых падзеяў! Якая ўдача для маладога музейнага навукоўца, які ў дадатак яшчэ марыць напісаць пад старасць нешта мастацкае, на базе дакументальнага...



Фота pinterest.com

— І так мне было цяжка ды пагана, — працягваў расказчык, — што вырашыў я помсціць усім да апошняга. Вось, думаю, выйду ды пачну як пасяўную па вясне. Ні адзін не ўцячэ. Спачатку дробным га́дам пакажу, дзе ракі зімуюць, іх лягчэй знайсці, а пасля ўсё вышэй ды вышэй, аж да самага галоўнага. Ну, колькі паспею. Жыццё маё ўсё адно, думаю, знішчана, толькі гэта і застаецца. Давай, за жыццё!

Мне было піць вельмі лёгка, і не толькі таму, што быў малады і яшчэ здаровы. Проста ад такога аповеду рот і так не зачыняўся. Таму заліў, і далей слухай. Толькі запамінай. Памяць у тыя часы таксама не саступала здароўю.

— Вось я і спіс у галаве склаў, як у бухгалтэрыі, каму выдаць і колькі. Да каго завітаю першым, да каго другім, да каго апошнім, калі змагу дапаўзці, і тут той апошні ўзяў ды дуба даў. Прыйшла баба з касой і па яго. Яна па ўсіх прыходзіць, рана ці позна, хоць тыя злыдні, што мяне садзілі, пра тое не задумваліся. А варта было б.

Гэтым разам Антон Іванавіч выпіў без тоста і мяне чакаць не стаў. Паставіўшы кілішак, прадоўжыў:

— Пацягнулі і яго, нашага галоўнага, нагамі ўперад па таксама галоўных праспектах сталіцы краіны саветаў як самага звычайнага смяротнага. Ну, народу толькі што нагналі на развітанне больш, чым да конюха, але яму ўжо, хіба, усё роўна было. І на тое, зашмат там народу ці замала, ён аніяк ужо не адрэагаваў. І свайго меркавання, якое раней меў на ўсе выпадкі жыцця, чамусьці не выказаў. А нам, палітычным, неўзабаве палёгкі пайшлі. Мяне ж па палітычным артыкуле судзілі. Дайшла амністыя і да мяне. Ну, думаю, трымайцеся, га́ды! Давай, вып’ем за амністыю. Хай яна прыходзіць людзям яшчэ да суда.

Я заліў гэтым разам у гарляк недапушчальна хутка. Лыкнуў, як пратрыманы некалькі дзён на ланцугу і без вады сабака. Надта ж хацелася хутчэй размову даслухаць, аж у носе свярбела. Ну на самым жа цікавым месцы спыніліся! Але расказчык гэта заўважыў і асуджальна пакруціў некалькі разоў у бакі галавой.

— Усё, што робіш, рабі годна, — заявіў ён. — Гарэлку таксама трэба піць з годнасцю і павагай да таго, з кім п’еш, да самой гарэлкі, да гэтага працэсу і таксама да сябе самога. Не спяшайся, не лыкай, як апошні раз, ніхто ж з зубоў не выдзірае. Пі годна ды спакойна. Паўтары, калі з першага разу не атрымалася правільна.

Я паўтарыў. Другая спроба пайшла значна лепш, бо вельмі стараўся, і я намогся запомніць яе ход на будучыню. Спатрэбіцца, маўляў, яшчэ неаднойчы. Тады я і ў думках не мог уявіць, што могуць надысці такія часы, калі піццё будзе прыносіць вялікія праблемы для здароўя. А дактары пачнуць тлумачыць, што нават годны і ганаровы працэс ужывання алкаголю можа нашкодзіць не толькі мазгам. Ну, па маладосці мы шмат чаго не ўяўляем. Але гэта ўжо іншая тэма.

— Дык вось, — працягнуў задаволены правільнасцю майго паўтору Антон Іванавіч. (Ну а каму не даспадобы задавальненне, калі знайшоўся таленавіты вучань). — Выйшаў я на волю, даехаў цягніком да Чыты, і там вырашыў крыху адкарміцца перад прыездам на Радзіму. Ну не мог жа я паказацца родным такім дахадзягам, як быў. Скура ды косці. Жывы труп. А заадно вырашыў скарыстаць час, каб высветліць, дзе цяпер знаходзяцца мае крыўдзіцелі. Ну тыя, што абгаворвалі, судзілі, садзілі, фальшывую справу шылі, здзекаваліся і ўсё такое. І як не стараўся, анікога знайсці не мог жывым.

— Як гэта? — здзівіўся я да такой ступені, што пачаў цверазець да ўзроўню музейнага экспаната з такіх глыбокіх фондаў, да якіх нічые рукі не даходзяць.

А гэта аніяк не ўваходзіла ў мае планы, бо грошай на чарговую пляшку ўжо не было. Якія там у тыя дзевяностыя гады былі заробкі ў малодшага навуковага супрацоўніка! Курам на смех. Толькі і куры не сталі б смяяцца. Плакаць бы сталі каровінымі слязамі.

Але і тут мяне выручыў мой суразмоўца. У яго была яшчэ адна з сабой. За пазухай. Мудры чалавек. Адразу бачна.

— А так гэта, — адказвае мудры чалавек. — Каго не знайду, а ён ужо даўно перастаў зямельку таптаць. Даўно ўжо з таго свету пазірае, якую я яму помсту рыхтую.

— І з чаго гэта ў іх арганізмы аказаліся такімі слабымі? — не даходзіць да мяне.

— Гэта каб шмат гарэлкі выпіць, трэба мець моцны арганізм, — смяецца ён. — Ну, а калі чалавека расстрэльваюць, то слабы ў яго арганізм, ці моцны, ужо не мае вялікага значэння.

Гэтым разам ён зрабіў паўзу без тоста і без выпівання. Напэўна, даў маім мазгам час дагнаць сказанае. І калі ўбачыў у маіх вачах абвостраную працу інтэлекту, вырашыў яму дапамагчы. Пачаў крыху з ранейшага месца, чым тое, дзе скончыў:

— Жыццё ішло сваім ходам. Пакуль я са здзіўленнем даведваўся, што чарговы крыўдзіцель схаваўся ад маёй помсты на могілках, я паспеў прыжаніцца на мясцовай хакасцы, працу знайшоў. Былі свае турботы, свая цікавасць. Весялосць нават. Вось жонка мая, хакаска, яна з шаманскага роду. І калі астранаўты высадзіліся на Месяцы і пра тое напісалі ў газеце, яе дзед, шаман, сказаў, што няма чаго з гэтага рабіць нешта незвычайнае. Бо ён на той Месяц высаджваецца з пастаяннай перыядычнасцю, і нічога. Мне ад таго было весела.

Тут Антон Іванавіч, перад чарговай фразай, крыху задумаўся, а па шчацэ з правага вока праляцела сляза і знікла за краем стала.

— А вось паездка на Радзіму ўсё аддалялася, тым больш, што мне там не было чаго рабіць, — выдыхнуў ён з такой гаркатой, што і горкая ў шклянках у параўнанні з ёй здалася мёдам. — Мая каханая даўно была замужам, у іншых былых знаёмых свае жыццёвыя клопаты. Ды і ўсе мае крыўдзіцелі не дажылі да таго моманту, пакуль я выйшаў з турмы, каб ім адпомсціць. Я іх усіх перажыў.

— Няўжо ніадзін? — пачынаю я разумець, хоць яшчэ і не да канца, якая эпідэмія іх напаткала.

— Ніадзін, — пацверджвае мае яшчэ кволыя здагадкі Антон Іванавіч.

Менавіта ў гэты момант ён і выгукнуў свой нечаканы для мяне тост: «Вып’ем за Сталіна!». І схапіў мяне за далонь, каб я ад нечаканасці не выпусціў кілішка з горкай. Мы ж ужо ягоную бутэльку вылізвалі.

— Сталін мяне апярэдзіў, — патлумачыў Антон Іванавіч. — Ён адпомсціў ім усім за мяне. Каго адразу да сценкі паставілі, каго ў астрогах дабілі. Не дапамагло ім, што так аддана яны яму выслужваліся, што і мяне, ні ў чым не вінаватага, звінавацілі ва ўсім.

Ён зноў усміхнуўся, і цяпер нават яго савіныя вочы заззялі зорачкамі далёкага космасу. Далёкага-далёкага, такога далёкага, дзе нават справядлівасць існуе.

— І ты ўяўляеш, — смяецца ён далей, — парадокс і абсурд яшчэ і ў тым, што некаторых з іх асудзілі па тым жа артыкуле, па якім яны вінавацілі мяне.

Я паглядзеў яму ў вочы, і мне больш туды глядзець не было страшна. Хацелася толькі даслухаць яго аповед.

— Вось так таварыш Сталін не дапусціў мяне да граху. Сам усё зрабіў за мяне. Адпомсціў усім да аднаго, а пасля і сам ласты склеіў, каб мне не было спакусы і да яго дабрацца. Як за такога чалавека не выпіць? — смяецца.

А я толькі башкой кручу. Пачуў такое неверагоднае, што каб прыдумаць захацеў, то не атрымалася б. А ён працягвае апавядаць:

— Я неяк жыў далей з тым іранічным разуменнем свету, і перажыў іх усіх. Ужо і гады самога Сталіна перажыў. А ён, з маіх крыўдзіцеляў, самы стары і самы апошні адсвістаўся на гэтым свеце. А тады, як яны мяне пад фальшывую справу прыстройвалі, напэўна, усе думалі, што гэта яны будуць жыць доўга і на маім паламаным лёсе зробяць сабе кар’еру і дабрабыт. Не атрымалася. І не атрымаецца ні ў кога. На ўсялякае зло ёсць зло яшчэ большае. І калі хто думае, што служэннем злу ён здабудзе літасці ў таго зла для сябе, то моцна памыляецца.

Антон Іванавіч прыпадняў вышэй свой кілішак і спытаў:

— Ну дык што, вып’ем за Сталіна?

І адпусціў сваёй сухой і моцнай рукой маю далонь з чаркай.

# Зельнік майго Прыдзвіння



Сяргей ПАНІЗЬНІК

*Магутна ў старажытнага бароўя*
*Пад муравой карэнні заварушацца.*
*О колькі зёлкавага добрага здароўя*
*Усім у гэты час уручыцца!*

*Каля Дзвіны нам песні пераймаць.*
*Каля ажынаў і гняздзечкам цешыцца.*
*Умеюць зёлкі бераг цалаваць,*
*А мы — лагодна з кветкамі кунежыцца.*

Пачаў я ўзбагачаць песнямі назапашаны з дзяцінства ЗЕЛЬНІК яшчэ ў 1968 годзе. Абабег свае родныя Бабышкі, суседнія вёскі Латышы, Даўгінава... Вось што «параілі» мне ў Лявонпалі Вольга Грэцкая і Марыля Кезік:

*Ой, то-то, хадзіла, то-то,*
*каля балота, ой, то-то!*
*То-то-то, высекла, то-то,*
*тры кіёчкі, то-то-то!*
*...Загарадзіла тры садочкі,*
*пасадзіла тры зёлачкі...*
*Адна зёлачка — рута-мята,*
*а другая — чырвона рожа,*
*а трэцяя — крапівінка...*
*А хто багаты, пільнуй мяты,*
*а хто прыгожы, пільнуй рожы,*
*То-то-то, а хто лянівы,*
*пільнуй крапівы, то-то-то!*

Пра зёлку прыгажосці духмяную руту-мяту, дазнаўся, што гэта прываротнае зелле чараўніц, сімвал прынады... Крапіву пільнаваць мне не захацелася. Але не давялося адбіцца ад баярачак-спадманачак, якіх наслалі на мяне Адэля і Альжбета Панізьнікі з Бабышак:

*Баярачкі-спадманачкі вы мае,*
*Спадманулі, падкаланулі вы мяне.*
*Вы казалі:*
*— Пойдзем у зялёны сад вянкі віць!*
*Сабе звілі з руты-мяты, лялеі,*
*А мне звілі з калючага ядлынцу:*
*Як пакланюся, дык укалюся...*

Укалоўся, але са сьвету ня зьвёўся, як прамаўляла мая мама — ратаўніца ад усіх няшчасцяў:

*Каб свянцоная вадзіца*
*непагадзь хутчэй змывала, —*
*мама за мяне маліцца*
*разам з сонцам уставала.*

Маім хросным бацькам быў Леў Іванавіч Кураш (20.11.1894—17.11.1973) — фельчар Лявонпальскай участковай бальніцы. Таму я пасля заканчэння дзесяцігодкі ў 1959 годзе паступіў на фельчарскае аддзяленне Магілёўскага медвучылішча. Вясной 1962 года стаў выпісваць рэцэпты ў Княжыцах пад Магілёвам. Галоўным у лячэнні было такое — Rp: DTD (dentur tales dozes). Даць такіх дозаў — квантум саціс (колькі заўгодна) — і будзь здароў, мой шаноўны пацыент! Таблеткі — кожнаму! Пра зёлкі нам ніхто не гаварыў. І пра «дзявоцкае ўмыванне, мальцаўскае ўздыханне» ад нейкай таямнічай купены, якая валодае магічным уздзеяннем на арганізм, я дазнаўся ў 1970 годзе ад Фёдара і Ганны Партас, Агаты Лакоткі з вёскі Ільмовікі на беразе маёй роднай рэчкі Волты:

*А на Яна — уначы*
*Дзеўкі зелля капалі,*
*Ды ня зналі, як зваці.*
*Адаслалі да цара.*
*А цар зелля не пазнаў,*
*Да царэўні адаслаў.*
*І царэўня узнала,*
*Дзевачкам адказала:*
*— Гэта зелля — купена:*
*Дзявоцкае умыванне,*
*Мальцаўскае уздыханне.*

Маё горкае ўздыханне закончылася ў 1977 годзе, калі беспартыйнага тулягу прызначылі стылістам газеты «Вячэрні Мінск», а ў 1979-м —рэдактарам Дзяржтэлерадыё БССР. Вось адзін цікавы эпізод майго творчага вылечвання. 19 верасня 1981 года ў эфіры прайшла тэлеперадача «Спадчына» пад назвай «На беразе Дзвіны» (аўтар С. Панізьнік, рэжысёр М. Ганкін, рэдактар В. Шырко). Там была прадстаўлена і гутарка студэнтаў Мінскага інстытута культуры, якія аднаўлялі ў Лявонпалі сядзібу Лапацінскіх, з жыхаркай мястэчка Ядзвіняй Сцяпанаўнай Кісьляк.

— Цётка Ядзвіння! Вы ж не шаптуха ці якая знахарка. То навошта вам гэтыя кветкі?

— Гэта ня кветкі, гэта — зёлкі. Ці мала чаго можа быць з чалавекам, а калі знаеш, якую зёлку пры якой хваробе варта заварыць, то настоем можна памагчы чалавеку.

— Ну вось тыя зёлкі, што вы тут, на беразе Дзвіны паназбіралі, ад якой хваробы?

— Ад усякай нядугі, сынок. Маліннік — ад прастуды, стоквеснік, яго і тысячалістнікам завуць, прымаюць, калі ў грудзёх баліць. Тубуць, прастрэл і пералёт — ад упуду. Даўнейшыя людзі зналі, чым лячыцца. Вот і я іх наслухалася. Помню, што заварка матачніка жар здымаець; п'юць яе і тады, калі пухліна на целе. Матачнік і раны гоіць. У нас кажуць так: зверабой (янаўку, святаяннік) тады п'юць, калі печань баліць, ім лечаць нервы. Ад 99 хваробаў памагаіць.

Цётка Ядзвіння прыгадвала:

— Захварэў мой тата на біццё сэрца. Не выбіваіць сэрца ўдараў, сколька паложана. У Павяцях доктар Лабунька быў, лекі даў. Дзве нядзелі тата зёлкі папіў і паправіўся. А мой надсаднік просценька цвіціць. Толькі корань і тапаром не ўсячэш. Ужываюць яго тады, калі ў жываце баліць. Надсаднік ёсць «мужчынскі» і «жаноцкі». Страўніку памагаіць і залатнік (гарчаўка). Чысцік — ад находу; калі болькі на цела напалі — тады і каровы не счышчаюцца. Зялезніца (прорва) — гэта бабскія лекі. Лопаўкі растуць каля ракі — добра для статку ад засору страўніка... Многа карысных зёлак. Толькі знаць пра іх нада...

Я з цёткай Ядзвіняй часта сустракаўся. Прыдзвінню яна радавалася: «Летам іду — пахошчы! Каждая зёлка да мяне гаворыць: — Вазьмі!».

Яна ўмела знайсці лекавыя сцюмбуры. Вось асобныя назвы з зельніка Ядзвінні:

Жывакост — для зрастання пераломаў касцей.

Баркун (доннік) — для добрага настрою.

Медуніца (шчамяліца) — для супакаення.

Падарожнік (трыпутнік) — спыняе кроў; ужываюць, калі часта да ўборнай бегаюць.

Канапелькі, гугель — калі з пухіром нелады.

Блёкат заварваюць, калі зубы баляць; яго добра і ў лазню — на дух!

Баган — заварам аблівалі сцены ад клапоў.

Гарчак на агародах расцець, ім печань лечаць.

Нагаткі — каб аборту ў каровы не было.



Ядзвіння Сцяпанаўна Кісьляк (у дзявоцтве Панізьнік, нарадзілася 20.11.1912 г. у вёсцы Рудакі), ткачыха, зельніца, пявуння. Фота аўтара.

Іскрачкі заварваюць і п'юць, калі ў гаспадынькі месячнага няма.

Арлік — ад абарваніны.

Цэнтаўра — калі ў грудзёх баліць.

Замест студэнтаў Інстытута культуры, якіх прагналі з-пад графскай сядзібы, я часцяком выпытваў у цёткі Ядзвінні сакрэты нашага мацерыковага травастою.

*Сляды сустрэч — на зімнім лядзе.*
*Але вунь там, на далягля́дзе,*
*дзе сонца гляне нам у твар —*
*за Волтай, Мерыцай, Дзвіной*
*узлягуць кветкі на папар, —*
*мы зноў спаткаемся з вясной!..*

Вось на гэтай Айчыне-Бацькаўшчыне я і даведаўся, што атрымаецца, калі пасеяць руту-мяту і ўсякія зёлкі — у тры баразёнкі. Песня нарадзілася ва Украіне, але слых у маіх землякоў — выдатны. І гумар вырастае спраўна. У скароце гэтая песня выглядае так:

*Ой, за гаем, гаем, гаем зеляненькім*
*Там арала дзяўчынанька у тры баразёнкі.*
*Пасеяла руты-мяты і ўсякія зёлкі.*
*Раслі яны, раслі — пара іх збіраці.*
*Дзе ні браўся казачок путанькі вязаці...*
*............................*
*...Пайшла тая слава*
*ў Вільню і Варшаву,*
*Што дзяўчына з казачком*
*ночку не праспала.*

Пра тое, як і пры якой нагодзе дапамагае рута-мята «і ўсякія зёлкі», я запісаў у 1968 годзе ад Любы Мядзюхі 1928 г. н. у вёсцы Латышы. (Цалкам песня — у зборніку «Беларускі фальклор», вып. 2, 2015 г.).

Але ж гаворка з цёткай Ядзвіняй не перапынілася. Так, я зноў у Лявонпалі. Слухаю і запісваю яе прыродные маўленне:

Расходнік — ад абарваніны.

Пустырнік — сэрцу памагаіць.

Калган (лапатка) — прыправа да яды.

Макрыцу заварваюць і п'юць — каб дзеці паявіліся.

Брылёўнік — жар у целе зганяіць, пухліна прападае.

Сучкі — ад залатухі: усё ачышчаіць.

Піжма — пухір лечыць, гнойныя раны зажыўляіць.

Краснуха — ад рожы.

Чамярыца — пры запаленні лёгкіх памагаіць. Навараць чамярыцы, памыюць галаву — і вошак у валасах няма.

Курасьлеп (калужніца) — ад пухліны.

Дзівасіл — рожу лечыць, каросту.

Скрыпень (іван-чай) — для бадзёрасці.

Вятроўнік — мачагоннае, крывяны цiск спадаіць.

Белы бэз — ад кашлю.

Званкі — пры хваробе нырак...

У 1999 годзе я гукнуў пад зоркаю нашу зёлку золкую: выйшаў зборнік вершаў «Золкая зёлка». Рукапіс пасылаў на агляд Зосьцы Верас — паэтэсе, батаніку... У вершы «Запрашэнне на гасціну» Людвіка Антонаўна ўглядалася у такія радкі: «На стальніцы густа: / Зайцава капуста, / Мядведжыя вушкі, / Лапкі пятрушкі, / Шчавель вераб'іны, / Сэрцайка каліны, / Светнік зязюльчын, / Трыпутнік бабульчын, / Васілёк, званочак, мох, / Нават сам чартапалох, / Бадзяк палявы, / Чабарок паўзучы, / Санцацвет заравы, / Дабраполь гаючы, / Санцагляд-малачай, / Трава-ключ, сардэчнік, / Святаяннік, гарчай, / Зубнік, меч, урэчнік, / Мацярдушка, метлужок, / І браткі, і дзядкі, / Шабельнік, гарошак... / Чым багаты быў лужок, / Трапіла — у кошык»...

Так, мы — Васількі, Алесі, Веранікі, Галінкі — не бязлікае насельніцтва. І зёлка — жывы помнік Прыроды, надзелены дзівоснай патаемай, моцнымі чарамі. Калі верыць цётцы Ядзвінні, кожная зёлка дапамагае вылечваць хваробы-недалужнасці. Вось чаму трэба нам аберагаць раслінны свет. Якой будзе зямля-айчына, такімі дагледжанымі будзем і мы. Ад цёткі Ядзвінні я пераняў, што лепшымі лекамі здаўна лічыліся спагада, ласка, дабрыня, міласэрнасць...

У пераліку зёлак, узгаданых цёткай Ядзвіняй, былі і такія: боцікі, казялкі, зайцава капуста, зайцаў гарошак, воўчае лыка, любезьнік, мачэўнік, чарнабыльнік (від палыну), зязюлькі (майскі ландыш), ярнік, рамуль, гарчаўка, бабоўнік-трылісьнік, катовы лапкі, крываўка, чартапалох (бадзяк, дзядоўнік)...

Цётка Ядзвіння гаварыла, што ёй наканавана пражыць 87 гадоў. Да спаўнення яе прароцтва не хапіла трох месяцаў. А нарадзілася дачка Сцяпана Панізьніка на Міхайла ў 1912 годзе ў вёсцы Рудакі на Міёршчыне. У 1933-м выйшла замуж за суседа маіх бацькоў — Андрыяна Кісьляка, сына Юркі.

Некалькі песняў з рэпертуару цёткі Ядзвінні былі надрукаваныя ў зборніку навуковых прац «Беларускі фальклор. Матэрыялы і даследаванні» (Выпуск 2, 2015 г.). Вось адна з іх — «Ішоў Раёк»:

*Ішоў Раёк,*
*Ішоў Раёк у наш дварок.*
*Нашы двары,*
*Нашы двары мяцёны.*
*Нашы сталы,*
*Нашы сталы засланы.*
*Хадзі, Раёк,*
*Хадзі, Раёк, у наш дварок.*

У 1968 годзе Раёк, той загадкавы дух, які клапаціўся пра дабрабыт, багацце продкаў, завітаў і на сядзібу цёткі Ядзвінні. Трапіў у песню «Ішоў Раёк». Паабвыкся з намі ўсімі, дапамагаў у заснаванні Музея Радзімазнаўства ў 1999 годзе і яго філіяла «Хата бабкі Ядзвінні»...

І ўсё таму, што нам усім на радасць яго ярыла-лявонпальскі задор курс узяў — ляцець да зор!

# Аўтографы з кнігазбору Карласа Шэрмана

Карлас Шэрман быў добрым таварышам і адданым чытачом. У ягоным кнігазборы захоўваюцца кнігі з дароўнымі надпісамі літаратараў з Беларусі, Украіны і Расіі. З многімі вядомымі аўтарамі Шэрмана і ягоную сям'ю нітавала шчырае сяброўства, памяць пра якое сёння захоўваецца ў кнігазборы Карласа Шэрмана Тамарай і Таццянай Ніканавымі.

Асобна вылучаецца калекцыя кніг Рыгора Барадуліна, знанага майстра вершаваных прысвячэнняў. Пададзеныя ў храналагічнай паслядоўнасці, яны ілюструюць культуру беларускага кніжнага аўтографа канца ХХ стагоддзя.

Мова і правапіс аўтографаў у гэтай публікацыі захаваныя.

***Марыя МАРТЫСЕВІЧ***

**«АРЫГІНАЛУ АД ПЕРАКЛАДА…»**
***Аўтографы Рыгора Барадуліна***

1.
**Рыгор Барадулін. Лінія перамены дат. Мінск: Беларусь, 1969**
*Надпіс на тытуле:*
Дарагому Карласу, які самы, самы, самы, самы —
Рыгор
24. VIII.70 г.
Мінск

2.
**Рыгор Барадулін. Журавінка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1972**
*Надпіс на тытуле:*
Той,
якая самая, самая, самая… добрая, — Тамары.
Рыгор
29.VII.73 г.

3.
**Рыгор Барадулін. Свята пчалы. Мінск:Мастацкая літаратура, 1975**
*Надпіс на тытульным развароце:*
Майму Карласу Шэрману
Ты, цёзка танка грознага,
(Не тога — з кабінета!)
Суровіш мужнай прозаю
Ласкавы дар паэта.
А спрэчка за цябе йдзе між
Двума мацерыкамі.
А ты не акадэмеіш —
Сваімі ўсё рукамі!

Ты снішся летуценніцам
Ад Мазыра да Кубы.
Хай слава не зацініцца,
Не ялавее — ценіцца,
Твая,
Барбудас любы!
З павагай
Рыгор Барадулін
Мінск, 76

4.
**Рыгор Барадулін. Ці пазяхае бегемот? Мінск: Юнацтва, 1981**
*Надпіс на тытуле:*
Хай да Карласа штогод
Той прыходзіць бегемот,
Што яго зрабіўшы дзедам,
Прадзедам назначыць следам!
Пакуль не дзед Рыгор
1 жніўня, 81
Мінск

*Надпіс на ўкладным аркушы:*
Ніякі літікарус
Ніколі не дагоніць —
Кампанія і Карлас
Уперадзе сягоння!

5.
**Рыгор Бородулин. Поэма признания. Минск: Мастацкая літаратура, 1982**
*Надпіс на тытуле:*
Стараўся Карлас у сем патоў,
Над працаю гнуўся полазам,
Каб Янка Купала у сто гадоў
Гаварыў па-іспанску з Коласам!
З любоўю — Рыгор Барадулін
Мінск, 82

6.
**Рыгор Бородулин. Каждый четвертый. Москва: Советский писатель, 1984**
*Надпіс на тытуле:*
Чтобы критикам икалось
И за Летою-рекой,
Поражает души Карлос
Шерманядерной строкой!
Рыгор
24.VIII.84
Мінск



7.
**Карлас Шэрман. Дождж у Каралішчавічах. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984**
*Надпіс на тытуле:*
Арыгіналу ад перакладa — Карласу ад Рыгора з падзякай за навуку і прыемную муку!
13.1.85 Rygor Baradulin,
Мінск

8.
**Рыгор Барадулін. Евангелле ад мамы. Мінск : Мастацкая літаратура, 1995**
*Надпіс на тытуле:*
Карлас!
Прымі ад мяне гэтую кніжыцу ў знак павагі й падзякі!
21. VIII. 95. Рыгор
Менск
P.S. гл. стар. 257 і ўсе астатнія!

*Надпіс на шмуцтытуле раздзелу «Трыкірый»:*
Спадару Карласу Р. Шэрману
Счарнеў ад жарсьці —
значыць малады.
Да старасьці
ты падыходзіш класава.
Жадаю да бялюткай барады
Памаўзавáць,
Канканіць
Ды Карласаваць.
Хай у цябе стаіць,
Як той таршэр,
Пан Шэрман,
У каханьні ненажэрны!
21. VIII. 95

9.
**Рыгор Барадулін. Лісты ў Хельсінкі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000**
*Надпіс на тытуле*
Карласу —
хроснаму бацьку «Лістоў»,
На ўсім, чым магу йшчэ,
скакаць гатоў!
5.06.2000
Рыгор
Менск

**«МОИМ ЛЮБИМЫМ КАРЛОСЯТАМ…»**
**Аўтографы Алеся Адамовіча, Наталлі Адамовіч, Валянціны Аколавай, Лідзіі Вакулоўскай, Уладзіміра Васілевіча, Валянціна Ерашова, Рымы Казаковай, Уладзіміра Ліпскага, Юрыя Пакальчука, Міхася Стральцова, Канстанціна Тарасава**

10.
**Алесь Адамович. Избранные произведения. Т 1. Минск : Мастацкая літаратура, 1977**
*Надпіс на тытуле:*
Карласу па-сяброўску (подпіс)

11.
**Лидия Вакуловская. Свадьбы. Москва: Современник, 1979**
*Надпіс на тытуле:*
Всем моим любимым карлосятам — Томе, Карласисту, Таньке=насекомцу) — с любовью
Лид, Ваку
3 января 80 г.
Минск

12.
**Римма Казакова. Страна-Любовь. Москва: Молодая гвардия, 1980**
*Надпіс на тытуле:*
Дорогому Карлосу Шерману с любовью.
Римма Казакова
26. V. 81

13.
**Константин Тарасов. В час стрельца. Минск: Мастацкая літаратура, 1981**
*Надпіс на тытуле:*
Дорогим Тамаре и Карлосу — дружески и с благодарностью.
20.07.81 Костя Тарасов

14.
**Валентин Ерашов. Тогда и после. Москва: Советский писатель, 1981**
*Надпіс на форзацы:*
Милым людям — Тамаре и Карлосу — с самой сердечной расположенностью и дружелюбием. Рады были с вами познакомиться мы оба.
Ваш Валентин Ерашов
25.VI.-83

15.
**Юрий Покальчук. И сейчас, и всегда. Москва: Советский писатель, 1985**
*Надпіс на тытуле:*
Карлосу Шерману с искренней симпатией и самыми дружескими пожеланиями творческих успехов, и еще в знак нашей общей любви к Никарагуа!
Ю. Покальчук.
10. XII. 1985 р.
Москва

16.
**Міхась Стральцоў. Мой свеце ясны. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986**
*Надпіс на тытуле:*
Дарагому Карласу Шэрману, якога люблю яшчэ і за тое, што ўмее дасціпна гаварыць, і шчодра, калі пра мяне.
3.07.86
М.С.

17.
**Уладзімір Васілевіч. Беларускі народны каляндар. Мінск: Ураджай, 1993**
*Надпіс на тытуле:*
Маім мілым Тамары Вячаславаўне і Карласу Рыгоравічу, з якімі ў добрым суседстве мы прагарталі ўжо шмат календароў…
15/VII-94 г. Ул. Васілевіч

18.
**Марына Цвятаева. Дзве песні. Пераклад Валянціны Аколавай. Мінск: Полымя, 1994**
*Надпіс на тытуле:*
Господину Карлосу Шерману — от поэта-переводчика «Валянціны Аколавай…» Вельмі шчыра.
10.10 94 г. *(подпіс)*
Мінск

19.
**Уладзімір Ліпскі. Падкідыш. Мінск: Беларусь, 1992**
*Надпіс на тытуле:*
Паважанаму Карласу Шэрману ад аўтара.
Уладзімір Ліпскі
1.09.95 г.

20.
**Алесь Адамовіч. Прожито. Москва: Слово, 2001**
*Надпіс на тытуле:*
Шаноўнаму, дарагому Карласу Рыгоравічу і мілай Тамары на добры ўспамін пра майго тату, пра Алеся Міхайлавіча.
З вялікай удзячнасцю, павагай, паклонам за гады пасля 1994 г…
Вера, Наталля Адамовіч,
жнівень, 2001 г.

# Праявы камізму ў творчасці Уладзіміра Папковіча

Ірына САМАТОЙ

Беларуская гумарыстычна-сатырычная творчасць (сукупнасць твораў розных родаў і відаў жартоўнага напрамку) мае сваю багатую і павучальную гісторыю, якая пачалася з фальклору — жартоўных прыказак, прымавак, загадак, песень, прыпевак, жартаў і інш. Гумар, як і сатыра, абумовіў своеасаблівасць многіх твораў старажытнай беларускай літаратуры. Ён увасобіўся ў творах дзясяткаў беларускіх аўтараў XIX і XX стагоддзяў. Гумар — адна з вызначальных рысаў натуры, таленту і віцебскага паэта Уладзіміра Папковіча.

Сярод творчых індывідуальнасцяў пасляваеннага пакалення, якое прыйшло ў літаратуру ў 60-х гадах, постаць паэта і перакладчыка У. Папковіча вылучаецца сваёй адметнасцю і непаўторнасцю.

Нарадзіўся творца 25 сакавіка 1935 года ў вёсцы Дварэц на Вілейшчыне. Перажыў ваеннае ліхалецце, арышт бацькі па лжываму даносу, цяжкія гады сіроцтва. У 1953 годзе стаў студэнтам факультэта нямецкай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Працаваў выкладчыкам нямецкай мовы і перакладчыкам тэхнічнай літаратуры ў розных навучальных і дзяржаўных установах Мінска. Быў загадчыкам кафедры нямецкай мовы ВДУ імя П. М. Машэрава. Перакладаў з нямецкай мовы на беларускую творы Ё. Бэхера, Р. Крафта, Ф. Шылера, Э. М. Рэмарка, Ш. Цвайга, В. Гаўфа і інш. Пераствapыў на нямецкую мову паэму К. Вераніцына «Тарас на Парнасе»(2003).

Не стала паэта 10 красавіка 2021 года…

Разнастайная па праблематыцы, багатая па настраёвасці, шчырая і спавядальная па гучанні, паэзія У. Папковіча захапляе перш за ўсё жыццёвай мудрасцю і асаблівай назіральнасцю, пільнай увагай да нюансаў чалавечага быцця.

Асаблівае месца ў яго паэзіі займаюць гумарыстычныя творы, да якіх ён звярнуўся ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Гумар, або добры смех, выкарыстоўваецца дзеля весялосці, з мэтай пасмяяцца з чаго-небудзь без з'едлівасці і крытыкі. Сведчаннем паэтычнага дару творцы служыць зборнік гумару «Вы будзеце смяяцца…» (выдадзены ў 2008 годзе пад псеўданімам Ахрэм Нядбайла). Выкарыстоўваючы прыём эстэтычнай правакацыі, аўтар свядома выбраў гаваркі псеўданім, нібы падкрэсліваючы бязладнае і пустое жыццё галоўнага героя гумарыстычных вершаў. На самай справе, Ахрэм Нядбайла — усмешлівы аптыміст і жыццялюб, чалавек з добрым, адкрытым для людзей сэрцам, які добразычліва, нязлосна жартуе над недахопамі ўласнага характару, паводзінамі людзей.

Гумарыстычная творчасць У. Папковіча ў згаданым зборніку прадстаўлена наступнымі жанравымі мадыфікацыямі: гумарыстычны верш, прыпеўка (чатырохрадкоўе), паэтычная карацелька (двухрадкоўе), «ахрэмінка» (аўтарская жанравая форма).

У гумарыстычных вершах адлюстроўваюцца грамадскія, бытавыя, сямейныя бакі жыцця, праблемы мастацкай творчасці. З гумарам расказвае У. Папковіч пра сучаснага змагара за праўду, які рэзка памяняў свае погляды, калі «яго начальнічкам зрабілі / І крэсельца яму далі». Жартаўліва-павучальна паэт дзеліцца сакрэтам сямейнага шчасця:

*Для жонкі ў хаце рай ствapай,*
*Не задзірайся,*
*Райся. Старых грахоў не паўтарай*
*І новых не цурайся.*

Асобныя вершы маюць свайго адрасата — «Паэт», «Вучоны», «Крытыку», «Дарадцам я заўсёды рад», «Заклік» і інш. Спачувальна аўтар раіць пасрэднаму маладому паэту прымусова не пісаць вершы:

*А лепей ты дзяўчыну палюбі.*
*Калі не верш,*
*Дык хоць дзіця народзіцца.*

Творчае асэнсаванне народна-паэтычных традыцый ярка адлюстроўваецца ў аўтарскіх прыпеўках (чатырохрадкоўях) з выразным рытмам, тэматыка якіх ахоплівае самыя разнастайныя з'явы жыцця, ад любоўных заляцанняў да грамадска-палітычных падзей. Дасціпна гучаць прыпеўкі на тэму сямейных узаемаадносін «Мілы спіць на тапчане», «Мой Валодзя быў на сходзе», «Пасля татавай зарплаты» і інш. Выкарыстанне лірычна-эмацыянальнага і грубавата-экспрэсіўнага гаваркога слова сведчыць пра жыццялюбівую натуру аўтара.

Каб узяла цябе халера,
Мужыка-функцыянера!
Быў, гавораць, на нарадзе,
Сам па вушы ў памадзе.

Найбольшую цікавасць у зборніку, у плане выяўлення камічнага, выклікаюць «ахрэмінкі» — гумарыстычныя, па словах аўтара, імгненнарэактыўныя вершы. Галоўны персанаж — тутэйшы жыхар Ахрэм, на першы погляд, аматар прыгод, гультаяваты, слабы чалавек:

*Ахрэм, лайдак, падаўся ў бізнес,*
*Тавараў розных накупіў.*
*Затым усё са склада вынес,*
*Забыўся, што сваё. Прапіў.*

Але за маскаю блюзнерства хаваецца іншы чалавек:

*Ахрэм — узорны сем'янін,*
*Не п'е, не курыць, не дурэе,*
*Уласнаручна склаў камін,*
*Зімой сядзіць, што трэба грэе.*

У вобразе Ахрэма ўвасобіўся жывы народны характар, насмешлівы, невынішчальны, стойкі ў любых нягодах.

Гумарыстычнай філасафічнасцю прасякнуты паэтычныя карацелькі (двухрадкоўі) У. Папковіча, у якіх пранізлівы гумар часам перарастае ў афарыстычную мадэль: «Не будзь зласліўцам у чужой бядзе. / Павер мне — і табе перападзе», «Здаецца мне: мы Богу замінаем, / Калі яго так часта ўспамінаем», «Праўда ў мове і ў слове. / А найперш — у душы, панове».

Двухрадкоўі носяць і павучальны характар, прымушаюць сур'ёзна задумацца над сваімі паводзінамі і станам грамадства: «Жыццё — як той трамвай: / Заціснулі — трывай!», «Начальства трэба ўсёй душой любіць — / На гэтым можна добра зарабіць».

Заўважым і тое, што ў гумарыстычных творах аўтара раскрыццё пэўнай сітуацыі дасягаецца праз народную моватворчасць: фразеалагічныя спалучэнні, народныя выслоўі і інш.

Смех паэта — гэта выяўленне аўтарскай пазіцыі, мастацкі прынцып пазнання і адлюстравання рэчаіснасці. Для ўсёй смехавой творчасці У. Папковіча характэрныя шырыня погляду, дасціпнасць, аптымізм, натуральнасць, эмацыянальнасць, сувязь з фальклорам, народнымі традыцыямі. Праз нязмушаны гумар аўтар змог паказаць маральна-этычныя, сацыяльныя праблемы сучаснага жыцця, характар, звычаі беларусаў, пры гэтым нікога не асуджаючы. Найважнейшай асаблівасцю гумарыстычных твораў Уладзіміра Папковіча з'яўляецца тое, што яны не пакідаюць чытача раўнадушным.

## Букераўская прэмія

Пісьменнік са Шры-Ланкі Шэхан Карунацілака атрымаў адну з самых прэстыжных узнагарод у галіне літаратуры на англійскай мове — Букераўскую прэмію — за раман «Сем месяцаў Маалі Алмейды».

Кніга распавядае пра прыгоды ваеннага фатографа Маалі Алмейды ў замагільным свеце пасля яго смерці; у яго ёсць усяго толькі сем месяцаў, каб расследаваць сваё ж уласнае забойства і прывесці сваіх людзей да сховішча з фотаздымкамі, якія «ўзрушаць Шры-Ланку».



Фота AFP

Лаўрэат атрымае грашовы прыз у памеры 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

Ш. Карунацілака нарадзіўся ў Гале ў 1975 годзе. Вырас у Каломба, вучыўся ў Новай Зеландыі, жыў і працаваў у Лондане, Амстэрдаме і Сінгапуры. Цяпер жыве ў Шры-Ланцы. Піша кнігі, сцэнары і песні.

Узнагароду аўтару ўручыла каралева-кансорт Вялікабрытаніі Каміла.

Букераўская прэмія была заснавана ў 1968 годзе. З 2014-га на яе можа прэтэндаваць любы англамоўны пісьменнік, чые кнігі апублікаваны ў Злучаным Каралеўстве. Раней узнагароду маглі атрымаць толькі аўтары з Вялікабрытаніі, Ірландыі і краін Брытанскай Садружнасці.

## Прэмія «NIKE»

Польскую літаратурную прэмію «Nike» за найлепшую кнігу мінулага года атрымала кніга паэзіі Ежы Ярневіча «Mondo cane». Прыз глядацкіх сімпатый «Nike» дастаўся Яне Астроўскай за гістарычны рэпартаж «Яны. Гомасэксуалісты падчас Другой сусветнай вайны».

Афіцыйнае ўручэнне XXVI-й літаратурнай прэміі «Nike» адбылося ў кастрычніку ў будынку Універсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве.

«Ежы Ярневіч фіксуе рэальныя смерці сяброў, разрывы адносін, разыходы — і бязлітасна глядзіць на ўласную рэакцыю на гэтыя «крайнасці». Кніга мае справу з мадэллю спавядальнай паэзіі, калі выкрываe слабасці свайго ўласнага цела, якое ўсё больш хварэе. Аўтар увесь час мяняе ракурс сінтаксісу: то ставіць аб'ектыў з іранічнай адлегласці, а праз імгненне здымае ўсё на камеру шакавальна інтымным буйным планам. Тут ёсць усё тое, на што так хацелася паглядзець і на што так не дазвалялася глядзець», — пішуць пра «Mondo cane» выдаўцы.

«Я ўспрымаю гэтую прэмію як узнагароду за паэзію, за тую паэзію, якая можа быць выратавальным кругам. Тая паэзія, якая… колькі з нас чытаюць вершы? Столькі, колькі было забіта ў Тэрмапілах, верагодна, не нашмат больш. Магчыма, з заўтрашняга дня іх будзе на 10 працэнтаў больш дзякуючы гэтай прэміі, да чаго я вас і заклікаю», — сказаў Ежы Ярневіч пасля абвяшчэння рашэння журы. «Можна таксама зрабіць палітычную заяву, але — і я гэта маю на ўвазе — мне здаецца, што сітуацыя настолькі сур'ёзная і пагрозлівая, што я проста не хацеў бы абясцэньваць сур'ёзныя разважанні сваімі выпадковымі каментарамі», — дадаў ён.

Ежы Ярневіч — англійскі філолаг, прафесар гуманітарных навук, паэт, літаратурны крытык і перакладчык (пераважна англійскай літаратуры, у тым ліку Джэймса Джойса, Філіпа Рота і Крэйга Рэйна).

У фінал XXVI -й літаратурнай прэміі «Nike» увайшлі тры раманы, біяграфія, эсэ, гістарычны даклад і зборнік паэзіі.

Аўтар або аўтарка кнігі-пераможцы атрымлівае 100 000 злотых і статуэтку. Арганізатарамі прэміі з'яўляюцца Фонд літаратурнай прэміі «Nike» і «Gazeta Wyborcza». Заснавальнік — фонд «Agory».

## Прэмія імя Капусцінскага

Сёлетнюю Прэмію імя Капусцінскага, якую прысуджаюць Фестываль літаратуры аб падарожжах і Польскі інстытут у Рыме ў супрацоўніцтве з сям'ёй Рышарда Капусцінскага і выдавецтвам Feltrinelli, атрымаў польскі рэпарцёр Павел Смаленскі.

Сёлетні лаўрэат з 1989 года з'яўляецца польскім журналістам, аўтарам Gazeta Wyborcza і шматлікіх кніг, у тым ліку прысвечаных Ізраілю, Іраку.

Прэмія імя Капусцінскага, аўтара, звязанага і з Беларуссю (нарадзіўся 4 сакавіка 1932 года ў Пінску), прысуджаецца з 2012 года за «здольнасць распавядаць пра месцы і культуры, весці хроніку назіранняў і перадаваць іх у у сваіх тэкстах». Яго пераможцы атрымліваюць бронзавую скульптуру польскага мастака Кшыштафа М. Беднарскага.

## Набелянтка Ані Эрно

Сёлетняя лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры Ані Эрно заявіла, што гэтая прэмія стварыла абавязак «працягваць барацьбу з несправядлівасцю».

Ані Эрно, 82-гадовая ікона фемінізму, вядомая як пісьменніца сваімі бескампраміснымі ўспамінамі пра жыццё жанчыны ў сучаснай Францыі, сказала, што літаратура не можа мець «раптоўнага эфекту», але адчувае неабходнасць падтрымаць барацьбу «жанчын і прыгнечаных» за свае правы. Выступаючы ў офісе свайго кнігавыдаўца Gallimard у Лацінскім квартале, А. Эрно не хавала свайго захаплення тым фактам, што маладыя чытачы ўсё яшчэ збіраюцца купляць яе кнігі.

«Мне не здаецца, што мы, жанчыны, зраўняліся з мужчынамі ў свабодзе і ўладзе. Гэтае дамінаванне ўсё яшчэ ёсць», — адзначыла А. Эрно. Яна таксама выказала сваю падтрымку народу Ірана, які пратэстуе супраць абавязковага нашэння хіджаба, дадаўшы, што яна «цалкам за тое, каб жанчыны пратэставалі супраць гэтага абсалютнага абмежавання».

## 300-годдзе Грыгорыя Скаварады

Ва Украіне на дзяржаўным узроўні адзначацьмецца 300-годдзе з дня нараджэння ўкраінскага філосафа, асветніка-гуманіста, паэта і педагога Грыгорыя Скаварады. Такое рашэнне прыняў Кабінет міністраў падчас кастрычніцкага пасяджэння, паведаміў Укрінфарм. У 2022 годзе дата юбілею знакамітага ўкраінца была ўключана ў спіс юбілейных дат ЮНЕСКА.

У органах дзяржаўнага кіравання і мясцовага самакіравання, установах адукацыі, культуры, навукі, музеях Украіны пройдзе шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных творчасці і культурна-грамадскай дзейнасці Скаварады: святы, тэматычныя выставы, круглыя сталы, дыскусіі, семінары, літаратурныя чытанні, экскурсіі.



«Сёння вельмі важна працягваць жыццё і папулярызацыю нашай культуры, супраць якой змагаецца вораг. Варварскае знішчэнне Нацыянальнага музея Грыгорыя Скаварады ў сяле Скаварадзінаўка Харкаўскай вобласці ды іншай культурнай спадчыны таму пацвярджэнне. Грыгорый Скаварада — адзін з самых яскравых украінцаў. Дзеля нашай будучыні мы павінны папулярызаваць спадчыну выбітнага пісьменніка і грамадскага дзеяча і наводзіць парадак, набліжаючы Перамогу Украіны», — заявіў міністр культуры ды інфармацыйнай палітыкі Аляксандр Ткачэнка.

Раней аргкамітэт пад старшынствам Ткачэнкі зацвердзіў план мерапрыемстваў па святкаванні 300-годдзя з дня нараджэння Грыгорыя Скаварады, была прэзентавана нацыянальная кампанія «Свет Скаварады».

Усе мерапрыемствы па ўшанаванні памяці Грыгорыя Скаварады пройдуць з улікам ваеннага становішча і захаваннем правілаў бяспекі (у траўні ў выніку прамога патраплення расійскага снарада быў разбураны Нацыянальны літаратурна-мемарыяльны музей Грыгорыя Скаварады).

## Непрыглушаныя галасы

Уіленскай кнігарні «Mint Vinetu» прэзентавалі анталогію сучаснай беларускай паэзіі «Белае чырвонае белае» ў перакладзе на літоўскую мову і нумар часопіса «Metai», прысвечаны беларускай літаратуры. Паводле паэта і рэдактара Антанаса Шымкаўса, у абодвух гэтых выданнях адным з найважнейшых акцэнтаў стала тэма свабоды — формы разняволення ў творчасці і свабоды як агульначалавечай і жаданай каштоўнасці.

Сабіна Брыло, паэтка і журналістка з Беларусі, якая цяпер мусіць жыць у Вільні, напісала ў прадмове да анталогіі паэзіі для літоўскага чытача: «Што чалавек можа зрабіць супраць тырана, які заўсёды мае турму і кулю напагатове? Што можа зрабіць народ, які толькі павышае голас, а ў адказ атрымлівае кашмар? Што можа зрабіць паэт? Можа падабраць патрэбнае слова. Можа, калі-небудзь гэтае слова ўзнікне — з хору галасоў, і яно будзе пачута, злоўлена і зразумета. І жыццё зменіцца».

Ідэя выдання паэтычнай анталогіі ўзнікла ў 2020 годзе. У Вільні былі арганізаваныя чытанні перакладаў маладой беларускай паэзіі — як адказ на масавыя пратэсты. Да таго часу ў сучаснай Літве выйшлі толькі два зборнікі беларускіх вершаў і некалькі кніг асобных паэтаў.

Па словах паэта, перакладчыка і выдаўца новай анталогіі Дамінікаса Наркунаса, «трэба прызнаць, што суседзямі пачынаем цікавіцца толькі тады, калі з імі здараецца нешта дрэннае. Будзем спадзявацца, што гэтая тэндэнцыя зменіцца хаця б у культурным асяроддзі».

У зборніку апублікаваны вершы дваццаці паэтаў. Пасказальна, што толькі нямногія з іх жывуць сёння ў роднай краіне, а іншыя з-за палітычнай сітуацыі пакінулі Радзіму і пасяліліся ў розных кутках Еўропы.




Фота Žygimanto Gedvilos, BNS nuotrer

Аўтараў адабраў для анталогіі Беларускі ПЭН-цэнтр, які сёння дзейнічае ў Польшчы, і сябра ягонай Рады, паэтка, перакладчыца і публіцыстка Марыя Мартысевіч.

Адказваючы на пытанне, як бы ён назваў сённяшнюю беларускую паэзію, паэт В. Дэкшніс адзначыў, што доўгі час існуе фальшывы вобраз беларускай літаратуры як правінцыйнай і нецікавай. «На гэта паўплываў каланіяльны досвед краіны, — сказаў ён, — і ў гэта доўгі час верылі нават самі беларусы. Бо калі пастаянна тлумачыць, што цэнтр — Масква, а ўсё астатняе — толькі правінцыя, гэта не можа не адгукацца на мысленні, псіхалагічным стане людзей, у канчатковым выніку на творчасці».

«Мы папрасілі паэтаў даслаць свае вершы, таму выбралі з таго, што яны самі прапанавалі, — канстатаваў укладальнік і паэт Марыюс Бурокас. — Паколькі пратэсты адбыліся зусім нядаўна, пісьменнікі падзяліліся тым, што сёння актуальна і балюча. Таму вельмі натуральна, што тэма супраціву — адна з ліній у кнізе, але, безумоўна, не дамінантная. Гэтае выданне не хацела ўпісвацца ў нейкія рамкі, абмяжоўваць сваю тэматыку. Намнога важней было адлюстраваць разнастайнасць паэзіі і яе якасць».

## Літаратурная Украіна

У Роўна адбыўся літаратурны фестываль творчай моладзі «SUP-2022».

У яго межах прайшоў запамінальны літаратурны батл. Сярод удзельнікаў была моладзь з розных ліцэяў і ВНУ. Батл праводзіўся ў два этапы ў чатырох намінацыях: паэзія, проза, спяваная паэзія і імправізацыя ад журы.

У такі складаны для Украіны час фестываль папулярызуе ўкраінскую культуру, мову і заклікае чытаць і пісаць вершы і прозу, у якіх можна выказаць боль, трывогу, каханне і шчырыя пачуцці. Гэта выдатная магчымасць пагутарыць і абмяняцца добрымі эмоцыямі за кубачкам гарачай кавы. У зале, як адзначалі ўдзельнікі, панавала неверагодная літаратурная атмасфера.

Праведзены літаратурны батл — гэта сучасная ўкраінская паэзія, песня, п'еса, проза, дэбют і класіка, мадэрн і кітч, рыфма і перформанс, гэта ўсё, чым напаўняецца сучасны ўкраінскі працэс, а галоўнае — папулярызуецца ўкраінская мова.

А ў Франкоўску тым часам стартаваў XXVI штогадовы адкрыты літаратурны конкурс «З гледзішча восені». Імёны яго пераможцаў журы абвесціць у Дзень украінскага пісьменства і мовы 9 лістапада 2022 года.